# Аб'ектыў

кастрычнік 2007, №2



## Беларускія незалежныя медыі ў пошуках сябе

старонка 14

## За мужнасьць і прафэсіяналізм

старонка 1

## Алесь Асіпцоў : "У нашай краіне небясьпечна быць проста чалавекам"

старонка 6

## Неўпрыгожаная праўда

старонка 19

**По данным Всемирной газетной ассоциации в 2007 году в мире погибло 106 сотрудников медиа. Цифра погибших журналистов в Ираке просто шокирует, там лишились своей жизни 45 журналистов различных информационных агентств. Ниже приводится список стран и имена журналистов, которые в этом году пополнили скорбный список погибших.**

**Афганистан (3)**
*Закия Заки (Zakia Zaki)*, журналист, Sada-e-Sulh (Радио мира)
*Ажмал Насхабанди (Ajmal Nasqhbandi)*, журналист и переводчик, La Repubblica
*Рахман Кул (Rahman Qul)*, редактор, Andkhoy

**Бангладеш (1)**
*Джамал Уддиг (Jamal Uddin)*, журналист, Dainik Giri Darpan

**Бразилия (2)**
*Луис Карлос Барбон Фильо (Luiz Carlos Barbon Filho)*, журналист, Jornal do Porto, JC Regional и Radio Porto FM
*Робсон Барбоса Безерра (Robson Barbosa Bezerra)*, независимый фотокорреспондент

**Бирма (1)**
*Кенжи Нагай (Kenji Nagai)*, фотокорреспондент, AFP

**Гаити (3)**
*Франсуа Латур (Francois Latour)*, журналист, Caraibes FM
*Аликс Джозеф (Alix Joseph)*, журналист и директор, Radio Provincial
*Жан-Реми Бадио (Jean-Remy Badio),* независимый фотокорреспондент

**Гана (1)**
*Сэмьюэл Энин (Samuel Enin)*, редактор новостей, радиостанция Ash FM

**Гватемала (2)**
*Хорхе Алехандро Кастаньеда Мартинез (Jorge Alejandro Castaneda Martinez)*, фотокорреспондент, Nuestro Diario, Siglo Veintiuno
*Марио Роландо Лопез Санчез (Mario Rolando Lopez Sanchez)*, радио-продюсер, Radio Sonora

**Гондурас (1)**
*Карлос Сальгадо (Carlos Salgado)*, журналист, Radio Cadena Voces (RCV)

**Зимбабве (1)**
*Эдвард Чикомбо (Edward Chikombo)*, независимый оператор

**Ирак (45)**
*Шехаб Мохаммед ал-Хити (Shehab Mohammad al-Hiti)*, редактор, Baghdad al-Youm
*Дхи Абдул-Разак аль-Дибо (Dhi Abdul-Razak al-Dibo)*, независимый журналист
*Салих Саиф Алдин (Salih Saif Aldin)*, иракский корреспондент, The Washington Post
*Жавад аль-Даами (Jawad al-Daami)*, продюсер, Al-Baghdadia
*Муханнад Гханем Ахмед (Muhannad Ghanem Ahmed)*, журналист, радиостанция Dar Al Salam
*Халид В. Хасан (Khalid W. Hassan)*, журналист, The New York Times
*Намир Нур-Элдин* (Namir Noor-Eldeen), фотокорреспондент, Reuter
*Луэй Сулейман (Luay Suleiman)*, журналист, Nineveh
*Сармад Хамди аль-Хассани (Sarmad Hamdi Al-Hassani)*, журналист, Baghdad TV
*Хамид Абд Сархан (Hamid Abd Sarhane)*, журналист, Irakioun
*Рахим ал-Малики (Rahim Al-Maliki)*, журналист, Al-Iraqiya
*Зена Махмуд (Zena Mahmoud)*, журналист, Alhaqiqa
*Филайх Вудэй Мижтхаб (Filaih Wuday Mijthab)*, редактор, Al-Sabah
*Ареф Али Филайх (Aref Ali Filaih)*, корреспондент, Aswat al-Iraq
*Мохаммед Хайлал Каржи (Mohammed Hilal Karji)*, корреспондент, Baghdad TV
*Сахар Ал-Хайдари (Sahar Al-Haidari)*, журналист, информационные агентства Iraq Voices, Nina и Institute for War and Peace
*Саиф Фахры (Saif Fakhry)*, оператор, Associated Press Television News
*Назар Абдулвахид аль-Радхи (Nazar Abdulwahid al-Radhi)*, журналист информационного агентства Aswat al-Iraq и Radio Free Iraq
*Махмуд Хассиб аль-Кассаб (Mahmoud Hassib al-Qassab)*, главный редактор еженедельника Al-Hawadith
*Абдул Рахман аль-Иссави (Abdul Rahman al-Issawi)*, журналист онлайнового агентства National Iraqi News Ageney
*Аль Халил (Ali Khalil)*, журналист Al-Zaman
*Алаа Улдин Азиз (Alaa Uldeen Aziz)*, оператор, и *Саиф Лаит Юсуф (Saif Laith Yousuf)*, звукооператор, ABC News
*Раад Муташар (Raad Mutashar), Имад Абдул-Раззак аль Обейди (Imad Abdul - Razzaq al - Obeidi)* и *Акил Абдул-Кадер (Aqeel Abdul - Qader)*, жуналисты, al - Raad
*Дмитрий Чеботаев (Dmitry Chebotayev)*, независимый фотокорреспондент, Русский Newsweek
*Иман Юссеф Абдалла (Iman Yussef Abdallah)*, журналист, радиостанция The sound of Mossul
*Хусейн Низаер (Husain Nizaer)*, журналист-стажер, Baghdad TV
*Таер Ахмад Жабер (Thaer Ahmad Jaber)*, заместитель директора, Baghdad TV
*Хамаил Мосин (Khamaail Mohsin)*, журналист, Radio Free
*Отман аль-Машхадан (Othman al-Mashhadan)*, репортер, Al Watan
*Хамаил Халаф (Khamail Khalaf)*, репортер, Radio Free
*Хамид аль-Дулейми (Hamid al - Duleimi)*, продюсер, телеканал Al - Nahrain
*Хусейн аль Джабури (Hussein al Jaburi)*, главный редактор, ежедневная газета Al-Safir
*Юссеф Сабри (Youssef Sabri)*, журналист, Biladi TV
*Мохан Хусейн аль-Дхахир ( Mohan Hussein al-Dhahir)*, управляющий редактор ежедневной газеты Al-Mashreq
*Джамал аль-Зубайди (Jamal al-Zubaidi)*, экономический редактор, ежедневные газеты As-Saffir и Al-Dustour

# "За мужнасьць і прафэсіяналізм"

## Шостая цырэмонія ўручэньня прэміі імя Зьмітра Завадзкага

Ульляна Міровіч

***10 верасьня ў Менску прайшла ўрачыстая цырымонія ўручэньня прэміі імя Зьмітра Завадзкага "За мужнасьць і прафэсіяналізм". У гэтым годзе прэмію атрымалі тры беларускія незалежныя журналісты: Генадзь Барбарыч (газэта "Белорусы и рынок"), Анатоль Гатоўчыц (БелаПАН, "Народная воля", Гомель) і Натальля Макушына (радыёжурналіст, Гародня).***



Фота Фундацыі імя Зьм. Завадзкага

Прэмія была запачаткаваная як узнагарода журналістам за прафэсійную мужнасьць у змаганьні за свабоду слова. Заснаваная праз год пасьля зьнікненьня апэратара Грамадзкага Расейскага Тэлебачаньня Зьмітра Завадзкага, прэмія сталася падтрымкай беларускім незалежным журналістам. За прамінулы час ёй былі ўганараваныя 23 беларускія журналісты, апэратары ды незалежныя выданьні. У 2006 годзе Фундацыяй Зьмітра Завадзкага было распачатае грашовае ўзнагароджаньне лаўрэатам прэміі.

Штораз на цырымоніі ўручэньня прысутнічаюць незалежныя беларускія журналісты, прадстаўнікі замежных мэдыяў, беларуская інтэлігенцыя. Гэта людзі, якім не абыякавая праўда пра лёс загадкава зьніклага апэратара Зьмітра Завадзкага. Падчас цырымоніі ўручэньня Прэміі з праграмнай прамовай выступіў кіраўнік Аддзела Спэцпраектаў Першага каналу (Расея) журналіст Павал Шарамет. Сярод усяго ім было сказанае й наступнае:

*"Мы памятаем Зьмітра ня як загінулага ці заўчасна зышоўшага ад нас чалавека. Пакуль невядомы ягоны лёс, ня знойдзенае ягонае цела ды не пакараныя злачынцы, мы лічым, што ён сярод нас і што ён да гэтага часу апэратар і супрацоўнік Першага канала. Пакуль у гэтай справе кропка не пастаўлена. Прэмія Зьмітра Завадзкага набліжае нас да таго, што здарылася ды нагадвае пра неабходнасьць давесьці гэтую справу да канца".*



Фота Фундацыі імя Зьм. Завадзкага

Чалавек неабазнаны можа зьдзівіцца: якая такая асаблівая мужнасьць патрэбная журналісту ў краіне цэнтральнай Эўропы, дзе не вядуцца ваенныя дзеяньні, а Нацыянальнае Тэлебачаньне й іншыя дзяржаўныя СМІ ўпэўнена канстатуюць стабільнасьць ды сацыяльную забясьпечанасьць грамадзтва. Але... У сваёй прамове Павал Шарамет адказаў на гэткае пытаньне, акрэсьліваючы сьпецыфічныя рысы працы незалежнага журналіста ў беларускіх умовах:

*"Незалежныя журналісты ў Беларусі – гэта людзі, якія сумленна, сьмела, прафэсыйна выконваюць свой абавязак, нягледзячы на ўціск уладаў. Кожны дзень беларускім журналістам даводзіцца пераадольваць перашкоды: іх зьбіваюць, кідаюць у пастарункі, іх нават забіваюць. Некалькі такіх гісторыяў адбылося, пра гэта ведае сьвет. Таму менавіта мужнасьць патрэбна сёньня журналістам, якія прагнуць захаваць сябе ў прафэсіі, папросту не здрадзіць свайму чалавечаму абліччу. Слова "мужнасьць вынесенае ў назоў гэтай прэміі. Мужнасьць – і прафэсіяналізм. Апошняе нагадвае журналістам пра тое, што яны не павінны ператварыцца ў прапагандыстаў".*

Цэнтральнае месца ў прафэсіі

Павал Шарамет адводзіць праўдзе:

*"Мы павінны казаць праўду. Праўду пра Лукашэнку, праўду пра апазыцыю, пра тое, што здараецца навокал. У імя гэтага нам, журналістам, патрэбна гартаваць у сабе сумленнасьць, мужнасьць і прафэсіяналізм".*

Разам са Зьмітром Завадзкім, былым асабістым апэратарам беларускага прэзідэнта, Павал Шарамет вясной 1997 году быў арыштаваны – за рэпартаж аб празрыстасьці беларуска-літоўскай мяжы – ды ўмоўна асуджаны на паўтары гады пазбаўленьня волі. Да траўня 2000 году журналісты разам працавалі ў Чачэніі, дзе здымалі для ГРТ фільм "Чачэнскі дзёньнік". 7 ліпеня 2000 года Зьміцер Завадзкі загадкава зьнік.

Сьвятлана Завадзкая падчас цырымоніі падзякавала ўсім незалежным журналістам за іх мужную працу й адзначыла:

*"Сёньня сапраўды незалежнаму беларускаму журналісту неабходна мець мужнасьць і вытрымку, таму што надрукаваны, нават і ў інтэрнэце, артыкул можа абыйсьціся ў два гады турэмнага зьняволеньня, а прысутнасьць журналіста на прэзэнтацыі кнігі можа стацца "парушэньнем закону". Я ўдзячная Вам за тое, што Вы, знаходзячыся ў такіх цяжкіх умовах, застаецеся ў сваёй прафэсіі і дапамагаеце людзям у Беларусі даведвацца праўду".*

Якая ж гэтая праўда? Кажа маці Зьмітра Завадзкага Вольга Рыгораўна:

*"Зачыняюцца незалежныя сродкі масавай інфармацыі, электронныя СМІ пад жорскім кантролем, і ёсьць яшчэ шмат рэчаў, каторыя вымушаюць людзей працаваць у атмасферы, калі трэба праяўляць мужнасьць, вытрымку, бескампраміснасьць ды цярпеньне".*

Свабода слова, да якой імкнуцца незалежныя журналісты, – ня нешта трансцэндэнтальнае, гэта фактычная з'ява беларускай рэчаіснасьці, якой надаюць вялікую ўвагу ў цывілізаваных краінах. Пра тое, чым павінна быць сабой журналістыка, гаворыць Стэфан Эрыксан, прадстаўнік дыпляматычнай місіі Каралеўства Швэцыі ў Рэспубліцы Беларусь:

*"Журналісты ў любым грамадзтве павінны адыгрываць сваю ролю, быць, як кажуць, чацьвёртай уладай. Яны павінны кантраляваць тое, што адбываецца ў грамадзтве, ў тым ліку й уладу. У Эўропе ўлада разумее, што гэта добра, – калі ёсьць незалежная журналістыка".*

Спадар Эрыксан ужо трэці раз прысутнічае на ўручэньні прэміі імя Зьміцера Завадзкага. Ён зазначае:

*"Прафэсіяналізм патрэбны ў любых умовах. І мужнасьць патрэбная паўсюль, але ў беларускіх умовах яна проста неабходная. Напрыклад, журналіст Зьміцер Завадзкі паплаціўся ўласным жыцьцём за сваю працу".*

Першы сакратар амбасады Нямеччыны ў Рэспубліцы Беларусь Маттіас Бірман пажадаў усім, хто атрымаў узнагароду, мужнасьці й сілы, каб пісаць праўду:

*"Наяўнасьць такой узнагароды для журналістаў вельмі пазытыўны момант, таму што сярод гэтых журналістаў – сьмелыя людзі, якія пішуць праўду".*

У шмат якіх людзей, што сталіся ад штодзённых папрокаў кіраўніцтва, што жывуць у страху страціць працу, у напружаным пошуку дадатковага заробку на хлеб для сям'і, часам ужо не стае сілаў крытычна ставіцца да плыняў інфармацыі. Яны з палёгкай занураюцца ў сьвет мэдыйнай рэчаіснасьці. Але тым, хто прагне крытычных развагаў, альтэрнатыўная інфармацыя замяняе паветра, якому, аднак, можна наўмысна перакрыць доступ ці дазаваць сыстэматызавана. Тады думка не задыхаецца, – але й не жыве. Урэшце, грамадзтву, пазбаўленаму тла для мысьленьня, робіцца ўяўна лягчэй. Асабліва лягчэй робіцца кіраваць такім грамадзтвам.

На адным са шматлікіх судоў над моладзевымі актывістамі, што адбываліся ўвосень напярэдадні Эўрапейскага Маршу Аляксандар Мілінкевіч сказаў: *"Калі мяне запытваюцца, што найперш трэба сёньня рабіць, я адказваю так: самае галоўнае – даваць людзям свабодную інфармацыю ды дэманстраваць салідарнасьць".* Цырэмонія ўручэньня прэміі імя Зьмітра Завадзкага зьбірае мужных й прафэсыйных журналістаў – людзей, неабыякавых да праўды. Узнагарода стаецца знакам пашаны да прафэсыйнай мужнасьці журналістаў.


Фота Фундацыі імя Зьм. Завадзкага

# Интернет-версии периодических изданий должны регистрироваться как СМИ

Министр информации Владимир Русакевич, сославшись на мировой опыт, заявил, что Интернет-версии периодических изданий должны регистрироваться как СМИ. "Мировой опыт исходит из того, что не регистрируются даже печатные средства массовой информации", — указывает, в свою очередь, зампредседателя ОО "Белорусская ассоциация журналистов" Андрей Бастунец.

Созданная в Беларуси межведомственная республиканская рабочая группа по изучению опыта стран СНГ и Европы в вопросе правового регулирования деятельности Интернет-СМИ ставит своей целью обобщить мировой опыт, сообщает БЕЛТА. Как отметил Русакевич, все государства занимаются проблемой регулирования деятельности Интернет-СМИ. В Беларуси нет наработок по решению этой проблемы. Собрав материалы, изучив мировую практику, рабочая группа внесет свои предложения. В частности, считает министр, Интернет-версии периодических изданий должны регистрироваться как средства массовой информации.

*– Любопытно, что Владимир Русакевич, делая такое заявление, ссылается на мировой опыт. Дело в том, что мировой опыт исходит из того, что не регистрируются печатные средства массовой информации, не говоря уже об Интернет-СМИ,* – сказал "Салідарнасці" заместитель председателя ОО "Белорусская ассоциация журналистов" Андрей Бастунец. – Реально же разговоры о регистрации Интернет-ресурсов велись еще до



начала работы межведомственной республиканской рабочей группы. И пока вопросов на тему, как белорусские власти собираются технически реализовывать эту регистрацию, больше чем ответов. Очевидно лишь одно, Интернет-СМИ хотят взять под контроль.

*Илья Горин*
***www.gazetaby.com***

# "Народная воля" павінна заплаціць А.Праляскоўскаму 25 мільёнаў рублёў

Суд Ленінскага раёну Менску пастанавіў спагнаць зь незалежнай газэты "Народная воля" 25 мільёнаў рублёў на карысьць кіраўніка галоўнага ідэалягічнага ўпраўленьня адміністрацыі прэзыдэнта Алега Праляскоўскага. Карэспандэнтка газэты Марына Коктыш павінна выплаціць яму яшчэ 2 мільёны рублёў. Суд задаволіў пазоў Алега Праляскоўскага пра абарону гонару, годнасьці і дзелавой рэпутацыі.

1 кастрычніка прысуд вынесла судзьдзя Ленінскага раёну Тацяна Жулкоўская. Летась яна асудзіла праваабаронцу Кацярыну Садоўскую на два гады турмы.

Алег Праляскоўскі падаў у суд пазоў пра абарону гонару, годнасьці й дзелавой рэпутацыі пасьля выхаду 2 жніўня публікацыі ў "Народнай волі" "Уладзімер Холад па-ранейшаму знаходзіцца на свабодзе".

Там паведамлялася пра былога першага намесьніка Праляскоўскага Ўладзімера Холада, якога абвінавачвалі ў карупцыі. Пра самаго кіраўніка ідэалягічнага ўпраўленьня ў артыкуле было толькі некалькі радкоў, у тым ліку ***"але Праляскоўскі на свабодзе"***.

Галоўны рэдактар "Народнай волі" Ёсіф Сярэдзіч не афішаваў судовай справы і не запрасіў на працэс журналістаў.

Як адзначыла для Радыё Свабода шэф-рэдактар "Народнай волі" Сьвятлана Калінкіна, 25 мільёнаў, альбо больш за адзінаццаць з паловай тысяч даляраў, вельмі вялікая сума для выданьня.

*"Зразумела, што гэта вялізная сума, якая, мы лічым, ніяк не адпавядае таму, у чым нас абвінавачваў спадар Праляскоўскі. Мы будзем абавязкова абскар-*


А.Праляскоўскі

*джваць гэтае рашэньне. Беларускія суды ставяць проста рэкорды па грашовым эквіваленце гонару і годнасьці высокіх чыноўнікаў.*

*Просты чалавек ніколі б не дабіўся такой кампэнсацыі, нават калі б былі 100 ці 300-працэнтныя доказы віны. Перад законам усе павінны быць роўныя.*

*Таму мы хочам прааналізаваць практыку беларускіх судоў у вынясеньні падобных рашэньняў у дачыненьні да простых людзей і да чыноўнікаў, а потым параўнаць гэтыя сумы"*, – кажа Сьвятлана Калінкіна.

***www.svaboda.org***

# Алесь Асіпцоў: "У нашай краіне небясьпечна быць проста чалавекам"

Я думаю, што ў нашай краіне небясьпечна быць, у прынцыпе, проста чалавекам, які ўмее разважаць, аналізаваць, прымаць рашэньні, а яшчэ чалавекам, які мае сваю ўласную пазыцыю, якая адрозьніваецца ад агульнапрынятай афіцыйнай. Што да журналістыкі, то я думаю, што існаваньне самой незалежнай журналістыкі – гэта ўжо сама па сабе небясьпечная рэч. Журналістам быць вельмі небясьпечна ў нашай краіне, бо з аднаго боку існуе такая рэч, як унутраны цэнзар і час ад часу табе кажуць: *"Вось гэта пішы так, а вось гэта гэтак!"*, а з другога боку ты, як чалавек, які займаецца пэўнай прафэсыйнай дзейнасьцю, проста не маеш ясна абазначанага заканадаўства. Я маю на ўвазе, што ты можаш рабіць, а што не. Журналіст, які дзеіць ва ўмовах нявызначанага заканадаўства ўвесь час спрабуе схаваць тыя войстрыя вуглы ў той ці іншай падзеі, каб не прыцягнуць да сябе ўвагі пэўных праваахоўчых органаў, у тым ліку Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі.

Інфармацыю атрымаць ня цяжка. Іншая рэч, што яе цяжка спраўдзіць, то бок атрымаць камэнтары ад афіцыйнага боку тых чыноўнікаў, якія ў той ці іншай ступені фігуруюць у гэтай інфармацыі. Праблема ў тым, што калі чыноўнікі не фігуруюць у матэрыяле, то такі матэрыял ня будзе цалкам аб'ектыўным. Па вялікаму рахунку ўлада ўжо даўно адгарадзілася ад журналістыкі. Тыя журналісты, якія працуюць у дзяржаўных СМІ, па вялікаму рахунку, выклікаюць спачуваньне, бо з аднаго боку яны разумеюць дзе й на каго яны працуюць, а з другога боку яны маюць пэўныя ўстаноўкі рабіць той ці іншы матэрыял, але з пэўнай скіраванасьцю.

Яскравых адназначных прыкладаў таго, што на мяне цісьне ўлада, дзякуй Богу, няма. Але вось само чаканьне таго, што ціск будзе, безумоўна адчуваецца. Адчуваньне агульнай небясьпекі зьвязана з тымі нюансамі, зь якімі прыходзіцца працаваць журналісту. Калі браць Магілёў, дзе няма публічных сродкаў масавай інфармацыі, то зразумелая рэч, што на цябе зьвяртаюць асаблівую ўвагу. Дастаткова толькі прычапіць бэйдж, узяць дыктафон у рукі, зрабіць намаганьне й пачаць гаварыць зь мінакамі на вуліцы й адразу ж на цябе зьвяртаюць увагу.



*Гутарку вёў* ***Вітольд Няўрыда***

Цікава ведаць

# Беларусь в рейтинге свободы прессы "Репортеров без границ" вновь заняла 151-е место из 169




Международная правозащитная организация "Репортеры без границ" опубликовала очередной ежегодный рейтинг свободы прессы, в котором Беларусь вновь оказалась на 151-м месте из 169 возможных.

"Репортеры без границ" отмечают, что из 20 стран, которые замыкают рейтинг, три государства из бывшего СССР – Беларусь, Узбекистан и Туркменистан (замыкают список страны с наихудшим рейтингом. – БелаПАН).

Возглавила список Исландия. За ней следуют Норвегия, Эстония, Словакия, Бельгия, Финляндия, Швеция, Ирландия, Португалия. На 12-м месте – Латвия, на 20-м – Германия, на 23-м – Литва, на 24-м – Великобритания. США занимают 48-е место, за ними следуют Того и Болгария. На 57-м месте – Польша, 60-м – Косово, 69-м – Буркина Фасо. Украина расположилась на 93-м месте, Венесуэла – на 114-м, Россия – 144-м.

Еще хуже, чем в Беларуси, ситуация со свободой прессы в Пакистане, Сирии, Вьетнаме, Китае, Мьянме. В последней пятерке – Куба, Иран, Туркменистан, Северная Корея и Эритрея, которая замыкает список.

Рейтинг свободы прессы составляют 15 организаций по защите свободы самовыражения из разных регионов мира. Эти партнерские организации заполняют анкету из 50 вопросов, на основе которой формируется список.

***www.belapan.com***

# Імёны Свабоды: Ігар Германчук

Думаючы пра Ігара Германчука, я найперш узгадваю ягоныя вочы – дапытліва засяроджаныя, але разам з тым нязьменна ўсьмешлівыя і сагрэтыя іроніяй. Вочы ўнутрана свабоднага чалавека.

Упершыню я сустрэў яго, студэнта факультэту журналістыкі БДУ, на пачатку 1980-х у цяпер ужо легендарнай Беларускай сьпеўна-драматычнай майстроўні. Я яшчэ ня ведаў, што Ігар ня толькі бярэ ўдзел у фальклёрных сьвятах ды адказвае на экзаменах па-беларуску. Працуючы на паліграфкамбінаце імя Якуба Коласа, ён выносіў адтуль наборныя літары для нелегальнай друкарні, якую марыў стварыць зь сябрамі.

Незалежная Беларусь стала мэтай і зьместам ягонага жыцьця зь юначых гадоў.

У 1990 годзе 29-гадовы Германчук быў абраны ў Вярхоўны Савет БССР гістарычнага XII скліканьня. Адзін з самых маладых дэпутатаў, ён з калегамі па фракцыі БНФ вяртаў нашую краіну на палітычную мапу сьвету.

У красавіку 1995 году Ігар разам зь іншымі дэпутатамі ад апазыцыі абвясьціў галадоўку пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам рэфэрэндуму пра дзяржаўную мову і сымболіку. Уначы ў залю Вярхоўнага Савету ўварваліся галаварэзы ў чорных масках.

30-гадовым Ігар узначаліў газэту "Свабода", якая пры ім зрабілася найбуйнейшым і найпапулярнейшым апазыцыйным выданьнем краіны. Ён, магчыма, як ніхто іншы з рэдактараў, разумеў магутную стваральную сілу нацыянальнай памяці. Даведаўшыся, што дзяржаўныя выдавецтвы адмовіліся друкаваць нашыя з Генадзем Сагановічам "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі", Германчук прапанаваў цалкам апублікаваць кнігу на старонках "Свабоды". Пазьней "Дзесяць вякоў..." чатыры разы выходзілі ў кніжным фармаце, але для мяне найдаражэйшым застаецца тое першае, газэтнае выданьне, якое ў суботніх нумарах чыталі дзясяткі тысяч людзей.






За антыпрэзыдэнцкія публікацыі пракуратура чатыры разы заводзіла на Ігара крымінальныя справы. Невядомыя прыцэльна стралялі па вокнах ягонага дому.

Пры канцы 1997 году газэта "Свабода" была забароненая, але ўжо ў студзені 1998 Ігар здолеў адрадзіць яе пад назовам "Навіны". Быў рэдактарам часапісу "Кур'ер".

1 студзеня яму споўнілася б толькі 46.

Ігара няма з намі ўжо амаль пяць гадоў. Дактары сьцьвярджаюць, што ягонае сэрца спыніла невылечная хвароба. А мне здаецца, ён проста задыхнуўся ад вострага недахопу свабоды.

У Беларускай Энцыкляпэдыі месца для артыкула пра Ігара Герменчука не знайшлося. Але ў той Беларусі, дзеля якой ён жыў, выйдуць іншыя энцыкляпэдыі.

***Уладзімер Арлоў***

# Закону па "спадарожнікавых талерках" не будзе, але ў спакоі іх не пакінуць



Дакумент, які б рэгуляваў ўсталяванне спадарожнікавых антэн і кандыцыянераў, мусіў з'явіцца яшчэ ў жніўні, але не з'явіцца ўвогуле. Як даведалася Еўрарадыё, Савет Міністраў вырашыў, што неабходнасці ў ім няма, бо існуе Палажэнне аб парадку перапланіроўкі жылых памяшканняў. Дарэчы, штрафы, абазначаныя ў Палажэнні, – ад 310 тысяч да паўтара мільёнаў рублёў.

Чалавек, які лабіраваў барацьбу з талеркамі, начальнік упраўлення добраўпарадкавання і гарадскога дызайну Камітэта архітэктуры Мінгарвыканкаму Аляксандр Андрончык, кажа, што чакаў ад Савета Міністраў тлумачэнняў, што рабіць з антэнамі.

Аляксандр Андрончык: *"Гэта задача, якая стаіць для ўсёй краіны. Гэта не пытанне толькі Мінску. Таму мы і прапанавалі, каб Савет Міністраў прапрацаваў гэтае пытанне і даў дакладныя тлумачэнні. Міністэрства архітэктуры рыхтавала ім свае прапановы. Збіраліся нарады, але канчатковы адказ, якім чынам нам рабіць, пакуль не прыходзіў".*

Чыноўнік і сам прызнае, што цяперашні парадак усталявання антэн надзвычай доўгі і складаны. Нагадаем, па ім у Мінску не ўсталявaная ніводная "талерка".

Аляксандр Андрончык: *"Яны могуць ставіць па заведзеным доўгім парадку. Ствараць праект, узгадняць і г.д. Гэта доўгі вельмі працэс".*

У Міністэрстве архітэктуры і горадабудаўніцтва Еўрарадыё пацвердзілі, што ніякай распрацоўкі дакумента па спадарожнікавых антэнах у іх не ідзе. Начальнік аддзела праектных работ Міністэрства архітэктуры Ігар Карпаў распавёў нам, што гэтую працу спыніў ліст з Савета Міністраў.

Ігар Карпаў: *"Ёсць ліст, у якім напісана, што нарматыўныя патрабаванні, якія цяпер дзейнічаюць, дастатковыя для таго, каб рэгуляваць працэс размяшчэння спадарожнікавых антэн на фасадах будынкаў. Так і напісана. Больш за тое, мы ў СаўМін адказалі, спасылаючыся на лісты Мінгарвыканкаму і Мінжылкамунгасу. Ён адказаў, што пастанова Савета Міністраў, якую рыхтавалі Мінжылкамунгас па перапланіроўках кватэр, дастатковая для таго, каб вырашаць гэтыя пытанні. Там напісаныя віды прац, на якія патрэбна распрацоўваць праектную дакументацыю і ўзгадняць усё з выканкамам і атрымліваць дазвол. Сюды ўваходзіць і ўсталяванне антэн і кандыцыянераў".*

На пытанне наконт штрафаў Ігар Карпаў адказаў намёкам.

Ігар Карпаў: *"Гэта тое ж, як зашклёныя лоджыі, памятаеце гэтую эпапею? Калі людзі шклілі хто з чаго можа. Цяпер ужо ўсе ведаюць, што калі самавольна рабіць гэта, атрымаеш штраф".*

Пакуль што ў Мінску судоў над уладальнікамі "талерак" не было, але яны могуць неўзабаве з'явіцца. Мы патэлефанавалі ў некалькі ЖЭСаў і запыталіся, як яны штрафуюць за самавольную перапланіроўку і ці штрафуюць ужо за антэны.

ЖЭС: *"Мы даем прадпісанне жыхарам, а калі яно не выконваецца, падаем у суд. І суд ужо прысуджае штраф. За антэны пакуль што не штрафавалі, гэта ж усё нядаўна з'явілася. Але хутка, здаецца, будзе гэта. Там вялікія штрафы – 10 базавых велічынь, напэўна, будзе..."*

Засталося незразумелым, хто падпадзе пад штраф у першую чаргу: тыя, у каго "самавольная" антэна вісіць ужо даўно, тыя, хто ўсталяваў яе пасля красавіка, калі пачало дзейнічаць Палажэнне аб перапланіроўках, тыя, чыя антэна выходзіць на праезную частку, ці ўсе без разбору?

Цешыць тое, што ў Палажэнні ў раздзеле "самавольная перабудова і перапланіроўка жылых памяшканняў" ёсць радок пра тое, што самавольна зробленую перапланіроўку могуць дазволіць пакінуць у тым выглядзе, як вы зрабілі, калі вы зробіце ўсё па правілах і прадставіце ўсе дакументы.

Праўда, калі гэтага не атрымаецца, то штрафы за "самавольства" – ад 10 да 50 базавых велічынь, гэта ад 310 тысяч да паўтара мільёнаў рублёў.



*Кацярына Буланава*
***www.belradio.fm***

# Сегодня – чекисты, завтра – жертвы

Павел Шеремет

***Майор КГБ Беларуси ищет защиты не от независимых журналистов, а у журналистов. Небо упало на землю? Нет, типичная история нового белорусского времени.***

Жена арестованного майора КГБ Андрея Демидова охотно общается с журналистами оппозиционных СМИ. Она старательно разоблачает преступления ведомства, в котором недавно работал ее муж. Более того, она сама находит журналистов и дает признательные показания оппозиционным СМИ без принуждения, бесплатно и чистосердечно. Публичность – единственный шанс для ее мужа выйти на свободу.

Майор КГБ Андрей Демидов находится в минском СИЗО №1. Его арестовали 19 июля. Через три дня предъявили обвинения в совершении незаконных действий в отношении огнестрельного оружия, боеприпасов, взрывчатых веществ, совершенных по предварительному сговору группой лиц. Прорабатывается также версия о причастности Демидова к организации витебских взрывов. Один из секретных агентов, завербованных в свое время майором, дал против своего бывшего куратора признательные показания. Дело может стать резонансным, вырисовывается целая банда оборотней в погонах КГБ. Майор Демидов бросился за шансом последней надежды – за помощью к журналистам.

Обычно чиновники и чекисты в Беларуси воюют с независимыми журналистами. По каждому поводу и без повода подают на них в суд. Особо наглые требуют для себя огромных компенсаций. Недавно некто Пролесковский из администрации президента отсудил у "Народной воли" круглую сумму денег. Видимо, он боится ареста, как это уже случилось летом с его заместителем, поэтому старательно изображает невинность и честность.

Но более дальновидные служители культа нынешнего президента стараются не сжигать мосты. Например, министр внутренних дел Наумов отводил работе с прессой большое внимание, можно сказать, что открыт для разговоров за жизнь. А бывший председатель КГБ Сухоренко? Ну, уж насколько недалекий человек, но все-таки дал подробное интервью журналисту "Народной воли". В другие – государственные – газеты этот деревенский монстр уже не попадает, так хоть "во вражеской газете" может оправдаться за свои поступки.

Осужденные таможенники, разоблаченные милиционеры и пограничники-взяточники пишут письма в независимые газеты или передают весточки через родственников. Они просят о помощи, просят хотя бы рассказать о них, невинно пострадавших и страдающих. Некоторые бегут в Европу и пытаются получить статус политического беженца, рассказывая как над ними – честными офицерами – издевались офицеры нечестные.

Отдельные оппозиционеры убеждают меня не отталкивать перебежчиков из КГБ. Наоборот, их следует поощрять, жалеть, холить и лелеять. Я не могу преодолеть отвращения к людям, которые 12 лет издевались над другими, а сейчас неожиданно прозрели. Они не прозрели, они шкуры свои защищают. Конечно, форма чекиста сама по себе не является признаком преступления, но также и неожиданное "прозрение" не может быть индульгенцией от наказания. Я верю в высшую справедливость, я знаю, что скоро каждый ответит за свои преступления, как отвечают секретные агенты и офицеры в соседних государствах. Нам не нужны перебежчики. Они перебежали в момент распада СССР в одну сторону, потом перебежали в другую. 15 лет назад с них – чекистов и коммунистов – никто не спросил за унижения и преступления, поэтому диктатура вернулась. Рано или поздно режим Лукашенко рухнет, и каждому придется дать ответ за свои поступки, иначе мы никогда не выберемся из болота. Отвечать придется и молодым, и старым, и в 30 лет, и даже в 70, всего лишь за одно преступление и не за серию, только лишь за одного невинно обиженного "молодофронтовца" и за стопки подписанных и проштампованных дел. Посмотрите на Польшу, спустя 20 лет после краха коммунизма они найдут и достанут всех активных деятелей спецслужб. Это не месть, это торжество справедливости. Кто не виновен, тому нечего бояться.



Жену майора Демидова мы выслушаем, мы даже и самому майору слово дадим, нельзя людей оставлять без права на защиту, им ведь никто уже не поможет, кроме журналистов.

*www.belaruspartisan.org*

# Беларускія незалежныя медыі ў пошуках сябе

Вольга Куўшынава

***У першай палове XX стагодзьдзя сусьветная грамадзкасьць зрабіла велічэзны крок у сваім развіцьці: з эпохі да-масмедыйнай яна крочыла ў эпоху інфармацыйнай сучаснасьці, у якой кіно, радыё, тэлебачаньне, газэты, кнігі, Інтэрнэт-прастора ня проста сьціроўваюць, але й фармуюць сьвядомасьць чалавека.***



Цяпер за чалавека выбар – што глядзець, што чытаць, пра што думаць ды чым абурацца – робіць прэса, найбольш камунікатыўная частка мас-медыя. Роля прэсы ўзмацнілася ў перадапошнім стагодзьдзі настолькі, што наяўнае маніпуляваньне свабодай слова сталася перадумовай любой дыктатуры. Вядомы амэрыканскі тэарэтык ды распрацоўшчык тэорыі мас-медыя Д. Маккуэйл так вылучыў найгалоўнейшыя праявы прэсавага ўплыву:

– аўтарытарная канцэпцыя грунтуецца на пазыцыі: прэса мусіць цалкам падпарадкоўвацца ўладзе, ня мець самастойнасьці, суіснаваць у лучве з цэнзурай, не крытыкаваць агульную ідэалёгію;

– свабодная канцэпцыя прадугледжвае адсутнасьць хоць якіх абмежаваньняў індывідаў ці групаў індывідаў у выказваньні сваіх думак. Ім дазваляецца крытыкаваць улады, але ўлады ня могуць караць іншадумцаў;

– канцэпцыя сацыяльнай адказнасьці базуецца на тэзах рымскіх заканадаўцаў: яны пагаджаліся быць пакаранымі смерцьцю ў выпадку дрэннага функцыянаваньня прапанаванага імі закона. На глебе гэтай тэорыі свабода прэсы абмежаваная забаронамі на публікацыі матэр'ялаў, што могуць справакаваць парушэньне раўнавагі ў грамадзтве ці давесьці да ўзброенага канфлікта;

– паводле савецкай канцэпцыі прызначэньне журналістыкі – абслугоўваць інтарэсы працоўнай клясы; медыі мусяць адыгрываць ролю пазытыўнага назіральніка ў межах прынятай сацыяльнай праграмы;

– канцэпцыя развіцця абмяжоўвае мас-медыі накіраваньнем цю дзяржаўнай палітыкі. У межах гэтай палітыкі ўрад пакідае сабе права цэнзуры ды умяшальніцтва ва ўнутраныя справы выданьня;

– канцэпцыя дэмакратызацыі прадугледжвае абарону правоў чытачоў за кошт стварэньня буйных арганізацыяў медыяў, прафесіяналаў ды заказчыкаў. У межах гэтай канцэпцыі медыя дасягальныя для ўсіх. Перыёдыка адказвае запатрабаваньням, няхай і сьпэцыфічным, сваіх (розных) чытацкіх колаў. Кожная будзь-якая заарганізаваная суполка мае права на сваё выданьне.

Разуменьне – якой ёсьць беларуская прэса, відаць, фармуецца ў залежнасьці ад таго, да якога лягеру належыць "экспэрт": да тых, хто пераважна разважае, ці да тых, хто пераважна пагаджаецца. Другія з нагоды шматлікіх прычынаў давяраюць афіцыйнай статыстыцы. Паводле яе сытуацыя з СМІ ў нас калі не выдатная, дык цалкам прымальная: у Беларусі існуе дастатковая колькасць (калі нават ня болей) усіх галінаў СМІ. Дзейнічаюць тры агульнадзяржаўныя тэлеканалы: Першы нацыянальны тэлеканал (www.tvr.by), Агульнанацыянальны тэлеканал (ОНТ) (www.ont.by), Сталічнае тэлебачаньне (СТВ) (www.ctv.by). Акром іх, ёсьць і дробныя тэматычныя альбо лякальныя тэлеканалы. З 1 лютага 2005 г. у краіны блізкага ды далёкага замежжа пачаў прамаўляць міжнародны спадарожнікавы тэлеканал "Беларусь-ТВ". Працуе ён для Азербайджану, Арменіі, Афганістану, Баўгарыі, Вугоршчыны, Грузіі, Ізраілю, Іраку, Ірану, Казахстану, Кітаю, Латвіі, Літвы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Румыніі, Паўночнай ды Паўднёвай Карэі, Сірыі, Славакіі, Таджыкістану, Туркменіі, Турцыі, Узбекістану, Украіны, ФРГ, Чэхіі, Эстоніі. Знаёміцца з працай гэтага тэлеканалу можна таксама й на старонцы www.belarus-tv.by.

Калі верыць інфармацыі, прадстаўленай афіцыйнымі Інтэрнэт-крыніцамі, перыядычныя выданьні выходзяць у нашай рэс-

публіцы на беларускай, расейскай, ангельскай, нямецкай, польскай і ўкраінскіх мовах, а больш за дзьве траціны перыядычных выданьняў зьяўляюцца недзяржаўнымі.

Такім чынам, спіс выданьняў па дадзеных на 1 чэрвеня 2007 года мы маем прыкладна такі:

– Газэты – 704 (усе) – 217 (дзяржаўныя) – 487 (недзяржаўныя);

– Часопісы – 489 (усе) – 157 (дзяржаўныя) – 332 (недзяржаўныя);

– Бюлетэні – 33 (усе) – 14 (14) – 19 (недзяржаўныя);

– Каталёгі – 3 (усе) – 3 (недзяржаўныя);

– Альманахі 1 (усе), 1 (недзяржаўны);

Колькасьць зарэгістраваных друкаваных СМІ сягае да 1230. Зарэгістраваныя таксама 9 агенцтваў.

Між тым сусветная супольнасьць абвінавачвае беларускія ўлады ў выкарыстаньні аўтарытарнай мадэлі ў дачыненьні да свабоды СМІ. Уплывовая арганізацыя "Журналісты бяз межаў" сабралася пазачаргова, каб у чарговы раз унесьці Беларусь у пералік краінаў, у якіх парушэньне свабоды слова набыло сістэмны характар. Паводле справаздачы міжнароднай арганізацыі па абароне правоў чалавека, сытуацыя застаецца крытычнай: "В Беларуси правительство контролирует прессу, поскольку владеет всеми типографиями в Минске и национальными службами распространения. Тот факт, что больше не существует ни одной ежедневной независимой газеты – все восемь ежедневных газет принадлежат государству – также свидетельствует о контроле государства над прессой. В течение последних трех лет правительство пользовалось этой властью для того, чтобы сократить тираж независимых печатных изданий до такой степени, что сейчас он, вместе взятый, не превышает ежедневного тиража одной только газеты "Советская Белоруссия" – органа администрации президента". Кажучы іншымі словамі, у нас да кола недзяржаўных выданьняў прылічваецца перыёдыка нават такой цалкам прадзяржаўнай арганізацыі, як БРСМ. А ў тэлеэтэры можна казаць пра ўсё – з адной умовай, што гэтае "усё" павінна быць дазволенае зьверху. Карацей, па факце: як у адной вядомай эстраднай песеньцы: "На телеэкранах множество каналов, но о самом главном там не говорят…".

У неабвешчанай уголас вайне бюракратычнай вертыкалі з СМІ на самым пачатку сталіся ахвярамі самыя безабаронныя выданьні – кшталту лякальных незалежных выданьняў дэмакратычных суполак, такіх, як "Салідарнасьць". У агульнанацыянальным маштабе пачалося цкаваньне буйных выданьняў – "Народнай волі", "Белорусской деловой газеты", "Нашай Нівы", газеты "Імя"… Чаму менавіта друкаваная перыёдыка прыняла на сябе такі жорстка пралічаны ўдар? Прычыны няздольнасьці абаранiцца доўга вышэй згаданы Д.Маккуэйлам бачыць у тэхналягічным працэсе вырабу друкаванай перыёдыкі (арганізацыя газеты мае шматлікіх пасярэднікаў; выраб газеты вымагае вялікай колькасьці сродкаў; неабходная ўмова выжываньня перыёдыкі – яна павінна прыносіць прыбытак).

Тым ня меней, спыніць інфармацыйны плыні ў XXI ст. ёсьць справай досыць натужлівай. Застаюцца крыніцы, кантраляваць якія вельмі складана. Гэта Інтэрнэт-прастора й так званы самвыдат. Што да патэнцыйных рэсурсаў Інтэрнэта, варта прыгадаць, што па колькасьці карыстальнікаў Беларусь у 2006 годзе займала 13 месца ў сьвеце. У першую тройку трапілі гіганты – ЗША (200 млн. Карыстальнікаў Сеціва), Кітай (111 млн.), Японія (85,29 млн.). Беларусь у гэтым сьпісе знаходзіцца паміж Расіяй (11 месца) ды Украінай (12 месца). Беларусь налічвае сёньня прыкладна 3,39 млн. карыстальнікаў. З улікам пашырэньня інфармацыйных памкненьняў грамадзкасці Інтэрнэт-старонкі могуць стацца самым сапраўдным выйсьцем для беларускіх медыяў. Другім перспэктыўным накірункам выглядаюць маланакладныя друкаваныя выданьні (самвыдат). Справа ў тым, што па выніках апытаньняў большасьць насельніцтва ўсё яшчэ выказвае найвялікшы давер менавіта друкаванай перыёдыцы. Карыстаючыся з плюсаў друкаванай перыёдыкі, самвыдат практычна ня мае мінусаў, з-за якіх прайгралі ў змаганьні зь дзяржавай іх буйныя калегі.

Аднак сытуацыя з самвыдатам у Беларусі застаецца крытычнай: калі Інтэрнэт-крыніцамі дэмакратычныя колы карыстаюцца вельмі актыўна і нават прафэсыйна, дык друкаваная перыёдыка перажывае пэўны заняпад. Газэты робяцца па шаблёне, робячы ўпор на пераказваньні састарэлых навінаў з уражвальна нудотнымі камэнтарамі. Узгадваецца артыкул Аляксандра Класкоўскага ад 2006 г. пад назовам "Дэмакрат у будцы галоснасьці": "Ва ўсякім разе, пачатак цяперашняй выбарчай кампаніі ўразіў прымітыўнасьцю інфармацыйнага суправаджэньня альтэрнатыўных прэтэндэнтаў. Адна з прэсавых групаў заспаміла скрыні рэдакцыяў доўгімі няўклюднымі справаздачамі пра вандроўкі іхняга лідэра (з абавязковымі "раялямі ў кустах") і ня меней дубовымі інтэрвію, дзе герой выказваецца з ненатуральным патасам ды мкнецца выглядаць сьвяцейшым ад папы рымскага." Жорстка, але... Справаздачы, пра якія кажа журналіст, арыентаваныя на вельмі вузкае кола атрымальнікаў. Большасьць насельніцтва з гэтага кола выпадае. І вось вынік – сацыялягічныя інстытуты фіксуюць рост даверу беларусаў да прапагандысцкай машыны ўладаў, якая хоць зрэдзьчас у сваіх друкаваных СМІ ўзгадвае пра цікавасьці чытача.

# “Улада хоча кантраляваць інтэрнэт-выданьні, каб у любы момант іх зачыніць”



***Віталь Цыганкоў гутарыць з рэдактарам інтэрнэт-газэты "Салідарнасьць", Аляксандрам Старыкевічам***



Аляксандар Старыкевіч

Створаная на ініцыятыву Аляксандра Лукашэнкі міжведамасная працоўная група, якая вывучае досьвед краінаў СНД і Эўропы ў пытаньнях прававога рэгуляваньня інтэрнэт-СМІ, схіляецца да высновы, што сецевыя вэрсіі пэрыядычных выданьняў трэба рэгістраваць як сродкі масавай інфармацыі.

***Цыганкоў:*** “Якія мэты ставяць улады, заяўляючы, што трэба рэгістраваць інтэрнэт-выданьні? У сваіх выступах беларускія чыноўнікі настойваюць якраз на тым, што ў інтэрнэце можна знайсьці ўсялякія асабістыя абразы, зьнявагі на адрас вядомых асобаў, кадры жорсткасьці – мы, маўляў, хочам ўвесьці розныя ўнармаваньні толькі дзеля таго, каб спыніць вось гэтыя нэгатыўныя зьявы...”

**Старыкевіч:** *“Якраз гэтыя мэты дасягнуць немагчыма, бо Інтэрнэт занадта вялікі і не падпарадкоўваецца беларускім уладам. Тое, пра што яны кажуць, захаваецца ў любым выпадку. Ды яны такой мэты ня ставяць, гэта такое афіцыйнае абгрунтаваньне...”*

Насамрэч гутарка ідзе пра тое, каб стварыць цяжкасьці для незалежных Інтэрнэт-рэсурсаў. Натуральна што далёка ня ўсе зь іх пройдуць тую рэгістрацыі, пра якую гавораць улады?”

***Цыганкоў:*** “Як павінна рыхтавацца незалежная інтэрнэт-супольнасьць, ведаючы такія намеры ўлады? Ці пойдзе, на вашу думку, хто-небудзь з інтэрнэт-СМІ на рэгістрацыю, калі яна будзе ўведзена, ці проста яны будуць існаваць пад замежнымі сэрвэрамі?”

**Старыкевіч:** *“Некаторыя пойдуць, некаторыя – не. Бо ў нашым выпадку нібыта ёсьць пэўнае поле для манэўру, мы можам хаця б паспрабаваць зарэгістравацца, а іншыя інтэрнэт-рэсурсы ня маюць такіх шанцаў. Хаця і ў нас іх няшмат.*

*Пытаньне ў тым, ці пройдзе дастаткова фармальная рэгістрацыя, і ўсё застанецца збольшага на сёньняшні рэйках, ці будзе распачата інтэрнэт-блякада тых незалежных сайтаў, якія рэгістрацыю ня пройдуць”.*

***Цыганкоў:*** “Вынікі такіх дзеяньняў улады будуць неадназначнымі. Адны кажуць, што гэта паспрыяе развіцьцю інтэрнэт-партызанкі, іншыя – што інтэрнэт-выданьні стануць больш асьцярожнымі..”.

**Старыкевіч:** *“Улада імкнецца да таго, каб кантраляваць інтэрнэт-выданьні, і ў любы момант мець магчымасьць іх зачыніць. Таму пэўныя плюсы, з яе пункту гледжаньня, у такім раскладзе будуць. Іншая справа, што мы, напрыклад, імкнёмся працаваць паводле заканадаўства і прафэсійных законаў журналістыкі, каб нам не прад'яўлялі аніякіх прэтэнзіяў. Аднак зразумела, што як паводле знакамітай показцы, “біць будуць не па законе, а па твары”.*



# Інтэрнэт-выданьні наступаюць на пяты друкаванай мэдыйнай прадукцыі



Навукова-тэхнічны прагрэс ды разьвіцьцё кампутарных тэхналёгіяў прывялі да ўзьнікненьня ноў-хаў апошняга стагодзьдзя – Інтэрнэт-прасторы. Віртуальнай прасторы, якую немагчыма памацаць, да якой немагчыма дакрануцца, – прасторы, якой, калі быць матэр'ялістам, папросту няма. Сеціва падаравала людзям таксама магчымасьць атрымліваць праз яго рознага кшталту інфармацыю.

Цяпер у сьвеце існуе некалькі мільёнаў усемагчымых сайтаў, блогаў, парталаў, іх колькасьць штогод істотна ўзрастае. Мы папраўдзе ўвайшлі ў век інфармацыі, – яна пачала граць галоўную ролю.

Беларусь таксама не абмінуў навукова-тэхнічны прагрэс. Кола карыстальнікаў Інтэрнэту няспынна множыцца. Статыстыка сьведчыць, што колькасьць юзэраў у Менску мяжуе на ўзроўне 50% ад агульнай колькасьці насельніцтва гораду. У абласных цэнтрах гэтая лічба памяньшаецца да 30%. Паказчык яшчэ зьніжаецца, калі справа даходзіць да раённых цэнтраў ды вёсак, – карыстальнікі Інтэрнэту ў пераважнай большасьці павінны мець уласныя кампутары ды быць крэдытаздольныя, каб аплочваць рахункі "Белтэлекама", што з-за невялікіх заробкаў на раёнах малаверагодна для вясковых жыхароў, мала хто зь іх здольны пераадолець гэты "маёмасны цэнз" ды ўліцца ў статыстычныя шэрагі карыстальнікаў Інтэрнэту. Агульная ж колькасьць беларусаў, якія карыстаюцца Інтэрнэтам, на сёньня большая за 2 мільёны.

Ня цешыць тарыфамі й "Белтэлекам". Гадзіна, праведзеная ў Сеціве, коштуе прыкладна 1200 рублёў. Але хуткасьцю перадачы інфармацыі дзяржаўнае прадпрыемства не вызначаецца. У сярэднім гэта 2-4 кбіты ў секунду пры пампаваньні, таму скачаць з Інтэрнэту песьню ці музыку, абноўленую вэрсыю якойсьці праграмы ці фільм, хутчэй за ўсё, малаверагодна. Адсутнасьць канкурэнцыі ў галіне прапановы Інтэрнэт-паслугаў дало "Белтэлекаму" магчымасьць зрабіцца манапалістам ды выстаўляць кошты, занадта вялікія для зьбяднелага насельніцтва. Крышку палепшыла сытуацыю з хуткасьцю зьяўленьне ADSL-мадэмаў, якія даюць магчымасьць за пэўную суму грошай выбраць тарыф ды хуткасьць пампаваньня й перадачы дадзеных. Але гэта дарагое задавальненьне.

Бесправадны інтэрнэт (WI-FI) ёсьць хіба што толькі ў Менску, ды й тое – ён не вядома па якіх прычынах ня вельмі моцна разьвіты.

За прыклад можна ўзяць Эстонію, якая знаходзіцца на першым месцы ў сьвеце па пашыранасьці сярод грамадзянаў краіны карыстальніцтва Інтэрнэтам. Колькасьць юзэраў сярод эстонцаў ва ўзросце ад 20-45 гадоў складае 98%. І тут нічога дзіўнага няма, бо Талін цалкам пакрыты бесправадным Сеціва, і за сымбалічны кошт ў 5 эўра штомесяц кожны жыхар можа скарыстоўвацца гэтым цудам у любой кропцы горада.

Зразумець палітыку ўлады адносна карыстальніцтва Сецівам зразумець няцяжка, бо разьвіцьцё Інтэрнэт-прасторы, зьніжэньне тарыфаў на ейнае скарыстаньне, паляпшэньне хуткасьці перадачы ды прыёму дадзеных прывядзе да значнага памнажэньня колькасьці карыстальнікаў. Інтэрнэт-прастора ў Беларусі пакуль не абмяжоўваецца нічым, і атрымліваць свабодную інфармацыю пра розныя падзеі, у тым ліку з "недзяржаўнага" жыцьця краіны, не складае для юзэраў аніякай цяжкасьці. Таму ўрад ня мкнецца да татальнай мадэрнізацыі, кампутарызацыі ды інтэрнэтазацыі краіны, а адкладае гэтую праблему "пад абрус", каб і надалей трымаць пад інфармацыйным кантролем большую частку насельніцтва.

Ды час бярэць сваё. На зьмену бацькам, вырасьлым у эпоху індустрыялізацыі, прыйшлі дзеці, што дасьпяваюць у век інфармацыі, колькасьць карыстальнікаў Інтэрнэту множыцца шляхам натуральнай зьмены пакаленьняў, адначасова падвышаецца ўзровень адукацыі. Для новага пакаленьня Інтэрнэт ня цуд і не забаўка, а рэч звычайнага ўжытку, неабходная для навучаньня і працы.

***Вітольд Няўрыда***



# “Брэсцкі Кур’ер”

Любоў Праневіч

*“Нічога, распагодзіцца!”*
*Ул. Высоцкі*




***Незалежная інфармацыйна-аналітычная газэта з багатай гісторыяй і дэмакратычнымі традыцыямі “Брэсцкі кур’ер” штотыдзень даносіць грамадзянам аб’ектыўную своечасовую інфармацыю пра падзеі у вобласьці, краіне й сьвеце.***

Газэта амаль са стогадовай гісторыяй “Брэсцкі кур’ер” з’яўляецца пераемнікам газэты “Брэст-Літоўскі кур’ер”. Ў перыяд з 1913 па 1915гг. “Брэст-Літоўскі кур’ер” выходзіў ў друкарні выдаўца Ракава два разы ў дзень раніцай і ўвечары. Першы наклад быў надрукаваны ў Вільні й распаўсюджваўся у горадзе з пяцідзесяцітысячнай колькасьцю жыхароў бясплатна. Захоп Брэст-Літоўска нямецкімі акупантамі пад час І Сусветнай вайны спыніў выхад газэты. І толькі ў лістападзе 1990 г. газэта была адноўлена й пачала выходзіць пяцітысячным накладам пад назвай “Брэсцкі кур’ер”.

Эпіграф адноўленаму выданьню падараваў дасьледчык творчасьці Ўладзімера Высоцкага й супрацоўнік рэдакцыі прафэсар А.А. Багдасараў. Ім сталі, **словы “Нічога, распагодзіцца!” зь песьні Ул. Высоцкага “Ў цямрэчы” якая найбольш трапна ў той час перадавала сітуацыю пераходнага перыяду ў краіне й акрэсьлівала місію выданьня: быць ня толькі дакладнай крыніцай інфармацыі й распаўсюджваць прагрэсіўныя рыначныя ідэй, але й пасьлядоўна абараняць справядлівасьць, законнасьць і правы чалавека. Меркавалася, што калі “распагодзіцца”, магчыма, эпіграф будзе зьменены, але пакуль істотных зьменаў у вобласьці дэмакратызацыі краіны не наступіла, на чале выданьня застаецца абраны 18 гадоў раней эпіграф.

З самага пачатку свайго функцыянаваньня “Брэсцкі кур’ер” прытрымліваецца дэмакратычных традыцый і з’яўляецца выданьнем, адкрытым для выказваньня розных грамадзянскіх пазыцый. Ужо ў 1991 г. пад час Путча берасьцейцы атрымлівалі своечасовую інфармацыю з Вільні, Рыгі, Масквы, дзе ў цэнтры падзей працавалі карэспандэнты “Брэсцкага Кур’ера”.

Сёньня “Брэсцкі Кур’ер” выходзіць штотыдзень й распаўсюджваецца на тэрыторыі Берасьцейскай вобласьці накладам у 15.000 асобнікаў. На 32 старонках газэты ў асобных рубрыках асьвятляюцца падзеі рэгіёна, краіны й сьвету, друкуюцца навіны, рэпартажы й аналітычныя матэрыялы з вобласьці палітыкі, эканомікі й бізнэсу, культуры й спорту. Пад кіраўніцтвам галоўнага рэдактара “Брэсцкага кур’ера” Мікалая Аляксандрава ў рэдакцыі працуе 34 чалавека. Разам з разьмяшчэньнем забаўляльных матэрыялаў, а таксама праграмы тэлеперадач, тэатральнай і кіна афішаў, аб’яваў і рэкламы газэта аператыўна даносіць карысную, цікавую й актуальную інфармацыю шырокім колам насельніцтва – ад кіраўнікоў дробнага й сярэднягя бізнэсу й прамысловых прадпрыемстваў да прадстаўнікоў ўлады й інтэлігенцыі, прыватных прадпрыймальнікаў, моладзі. Традыцыйна разьмяшчаюцца на адпаведных старонках газэты пэўныя рубрыкі, строга структураваныя па тэматыцы: палітыка, эканоміка, гісторыя, культура, напрыклад, “Гораду й сьвету” ці “Urbi et orbi” (навіны тыдня ў горадзе, краіне й сьвеце), “Ваша здароўе” (мэдыцына), “Кола” (аўтамабільныя навіны), “Свой дом” (жыльлёвыя пытаньні), “На старт!” (спартыўныя падзеі), “Адпачывай!” (прадказаньні зорак), “Пакаленьне Х” (жыцьцё моладзі), “Тэледом” (камэнтарыі навінак кіно), “Перакурчык” (старонка гумару й сатыры). Рэклама займае 25 % газэтнай плошчы, уключаючы 3-4 старонкі прыватных аб’яваў. Газэта выходзіць раз на тыдзень, у сераду, распаўсюджваецца праз падпіску й у розьніцу й налічвае 52 нумары ў год.

Газэта стала й грунтоўна асьвятляе мерапрыемствы, якія арганізуюць мясцовыя ўлады, і ў той жа час не абыходзіць увагай

дзейнасць грамадзкіх арганізацый і апазіцыйных партый. Улічваючы спецыфіку й гістарычныя асаблівасьці рэгіёна, ащтарския матэрыялы ў газэце друкуюцца на беларускай і рускай мовах, у залежнасьці ад прыярытэтаў аўтараў. Паралельна з інфармацыяй пра падзеі заходняй сталіцы Беларусі – горада, які мяжуе з Польшчай і знаходзіцца непадалёку ад мяжы з Украінай – газэта часта публікуе навіны бліжняга замежжа.

"Брэсцкі Кур'ер" наладжвае дыялог паміж рознымі сацыяльнымі групамі, і, улічваючы запатрабаваньні чытачоў, з дапамогай апытаньняў і маркетынгавых дасьледваньняў рэальнай і патэнцыяльнай аудыторыі, акрэсьлівае зьмест газэты. Асобая ўвага надаецца рэдакцыяй газэты жывой размове з чытачамі. "Чытачы фарміруюць твар газэты, – зазначае галоўны рэдактар "Брэсцкага Кур'ера" Мікалай Аляксандраў, – "жывы голас акрэсьлівае тэматыку, стылістыку й танальнасьць размовы з аудыторыяй. Існуе выданьне менавіта для чытача, які неадназова падтрымліваў газэту ў цяжкія для яе часы."

У рубрыцы "Бюро дэжурнага рэпарцёра" і рубрыцы лістоў і меркаваньняў чытачоў "Guide Park" публікуюцца праблемныя пытаньні, якія задаюць чытачы, патэлефанаваўшы ці даслаўшы ліст у рэдакцыю. "Guide Park" – гэта вядомая ў Лёндане плошча, дзе кожны грамадзянін мае права прыйсьці й свабодна выказаць свае думкі. На старонках "БК" грамадзяне таксама маюць магчымасьць свабодна выказаць свае меркаванні ці задаць пытаньні па актуальнай для іх праблеме. Рэдакцыя, у сваю чаргу, строга прытрымліваецца пазыцыі, увасобленай у словы Ул. Высоцкага "Відаць, патрэбен я там, у цямрэчы!"*** і вядзе інтэлектуальны дыялог з чытальніцкай аудыторыяй, і ў адрозьненьні ад жоўтай прэсы, падае інфармацыю па актуальных і важных для кожнага чалавека сацыяльных пытаньнях з розных пазыцый, што такім чынам ўдасканальвае крытычнае мысьленьне чытача й узбагачае ня толькі ведамі, але й дае магчымасьць кожнаму сфармiраваць сваё асабістае меркаваньне адносна спрэчнай сітуацыі.

У гісторыі газэты не абыйшлося й бяз цяжкіх момантаў. Напрыканцы 2006 г. была прыпынена падпіска на распаўсюджваньне газэты "Брэсцкі Кур'ер" на 2007 г. праз дзяржаўнага распаўсюдніка друкаванай прадукцыі "Белпошта". Некалькі тыдняў перамоў з уладамі спатрэбіліся рэдакцыі "БК" для таго, каб падпіска на незалежнае інфармацыйнае выданьне была ўзноўлена. У сітуацыі, калі на афармленьне падпіскі звычайна адводзіцца 3 месяцы, чытачы "Брэсцкага Кур'ера" толькі на працягу 10 дзён мелі магчымасьць паклапаціцца пра атрыманьне выданьня ў наступным годзе. За кароткі тэрмін газэта здолела аднавіць звычайную колькасьць падпісчыкаў, што сьведчыць пра запатрабаванасьць газэты ў рэгіёне. Па дадзеным дасьледваньняў чытальніцкай аўдыторыі й рынка прэсы Берасьцейскай вобласьці на 2000 г. 93% апытаных чытачоў давяраюць "Брэсцкі Кур'ер".

Вынікам адказнай і сумленнай працы рэдакцыі "Брэсцкага Кур'ера" сталі прэстыжныя ўзнагароды газэце – міжнародная прэмія "Маладая прэса Ўсходняй Эўропы" (1999г.), заснаванай Фондам газэты "Die Zeit" (Гамбург, Нямеччына), неадноразовыя ўзнагароды Саюза прадпрыймальнікаў Берасьцейскай вобласьці й Камітэта па прадпрыймальніцтву Берасьцейскага аблвыканкама, Свабоднай Эканамічнай Зоны "Брэст", Беларускай асацыяцыі журналістаў.

Рэдакцыя "Брэсцкага Кур'ера" з аптымізмам глядзіць у будучыню й у кожным новым нумары з нязьменным дывізам "Нічога, распагодзіцца!" нясе сваім чытачам надзею на паляпшэньне дэмакратычнага клімата у краіне.

**В темноте**
*(Владимир Высоцкий)*

Темнота впереди – подожди!
Там – стеною закаты багровые,
Встречный ветер, косые дожди
И дороги неровные.

Там – чужие слова, там – дурная
молва,
Там ненужные встречи случаются,
Там пожухла, сгорела трава
И следы не читаются, –
В темноте.

Там проверка на прочность – бои,
И закаты, и ветры с прибоями, –
Сердце путает ритмы свои
И стучит с перебоями.

Там – чужие слова, там – дурная
молва,
Там ненужные встречи случаются,
Там пожухла, сгорела трава
И следы не читаются, –
В темноте.

Там и звуки и краски – не те,
Только мне выбирать не
приходится –
Видно, нужен я там, в темноте! – ***
НИЧЕГО - РАСПОГОДИТСЯ!*

Там – чужие слова, там – дурная
молва,
Там ненужные встречи случаются,
Там пожухла, сгорела трава
И следы не читаются, –
В темноте.

*1969*



# "Моладзевая Думка" – тваё выданьне

Раман Няхай




Зараз такое цяжка й уявіць, але быў час, калі ў Беларусі вельмі актыўна разьвіваўся трэці сэктар. У краіне існавала вялікая колькасьць няўрадавых арганізацыяў рознага напрамку. Сярод іх былі экалягічныя, адукацыйныя, спартовыя, палітычныя суполкі. І кожная зь іх намагалася рабіць сваю маланакладавую газэтку. Так, як грыбы пасля дажджу, у краіне пачалі ствараца газэткі і бюлетэні. Шмат зь іх адрозьніваліся вельмі добрай якасьцю, у іх быў стыльны дызайн, цікавыя й зьместоўныя тэксты і неблагая вёрстка. У той час, больш за сем гадоў таму (травень 2000 году), пабачыў сьвет і першы нумар "Моладзевай думкі" – афіцыйнага выданьня берасьцейскай філіі Маладога Фронту.

З моманту стварэньня арганізацыі да выхаду ў сьвет газэты прайшло амаль два гады. Так у МФ быў створаны адмысловы аддзел, якому й даручылі нялёгкую справу выданьня "Моладзевай думкі". Адзначым, што свой унёсак у стварэньне выданьня зрабіла большая частка сяброў арганізацыі. Газэта рабілася як на уласнай тэхнічнай базе МФ, так і ў зачыненым пазьней уладамі рэсурсным цэнтры "Вежа". Цікава, што "Вежу" узначальвала вядомая сёньня на ўсю краіну Іна Кулей.

"Моладзевая думка" была разьлічана на людзей розных узростаў, зь яе старонак МФ выказваў сваю афіцыйную пазыцыю і правадзіў PR-кампаніі ўсяго сапраўды нацыянальнага, беларускага. Зразумела, што выданьне прызнае толькі клясычны правапіс беларускай мовы.

Першы нумар атрымаўся ня вельмі ўдалым. Ён выйшаў ўсяго на шасьці старонках, на якіх дызайнэр-наватар выкарыстаў усе шрыфты word-а, уціснуў тры дрэнна апрацаваныя рэтра-фота, ды некалькі малюнкаў, зробленых дзіцячаю рукою. Праясьняецца канцэпцыя выданьня: нешта музычна-футбольнае, мінімум навін і, звычайна, PR духоўнага лідара арганізацыі. Цікава, што стыль артыкулаў быў вельмі розны. Галоўны "шэдэўр" зацясаўся на апошняй старонцы. Гэта будучая зорка айчыннай журналістыкі зрабіла інтэрвію з гуртам "Млын", лід быў напісаны ў кантэксце – што бачу, то і сьпяваю. Таксама атрымаўся цікавы гістарычны артыкул, прысьвечаны футбольнаму клюбу "Пагоня", адраджэньнем якога ў той час заняўся "Малады Фронт".

Але, як кажуць, антырэкляма таксама рэкляма і ўжо праз паўгады выйшаў другі нумар газэты, надрукаваны на высокаякасным ксэраксе. Фармат выданьня не зьмяніўся, але, што радуе, стала больш навін да нейкіх падзей, апісваючы якія, аўтары матэрыялаў старанна намагаюцца зрабіць выгляд, нібы ў Берасьці існуе сьвецкае жыцьцё і прасунутая тусоўка. На жаль, якасьць фота пакідае жадаць лепшага, некаторыя з іх увогуле нагадваюць рэнтгэнаўскія здымкі.

Пасьля, пакуль рэдакцыйныя працаўнікі займаліся клюбным жыцьцём і палітычнай кар'ерай, "Моладзевая думка" некаторы час не друкавалася. Наступны нумар выйшаў толькі ў верасьні 2003-га, у ім кардынальна зьмянілася ўсё, прычым у лепшы бок. Такога якаснага выданьня яшчэ ніхто ня бачыў. Зь першага погляду кідаецца ў вочы, што рэдкалегія ўвесь гэты час працавала над тым, каб палепшыць газэтку, зьявіліся новыя магчымасьці, дзякуючы росквіту камputарных тэхналёгій (у 2000-м пра такое толькі марылі), колькасьць старонак павялічылася да 20-ці! Нумар прысьвечаны адной з самых маштабовых акцый у гісторыі Маладога Фронту – "Рух Добрай Волі", зьяўляецца падрабязная справаздача пра ўсе прыгоды "лясных жыхароў". Упершыню друкуюцца "Прыгоды маладафронтаўца X", чырвонай стужкай праходзяць інтэрвію з глямурнымі асобамі. А ў наступных выпусках ёсьць нават гістарычныя і аналітычныя артыкулы, рэцэнзіі, парады, вершы, павялічваецца аб'ём выданьня, гэта ўжо 26-30 старонак, ёсьць чаму пазайздросьціць і шматлікім сталічным выданьням, некаторыя зь якіх усё яшчэ вярстаюць у word-е. Цікава, што на сойме Маладога Фронту газэта "Моладзевая думка" прызнаецца лепшай сярод маладафронтаўскіх выданьняў Беларусі.

Дзень і ноч працуе рэдакцыйная электронная скрынка і кожны можа паспрабаваць сябе ў

ролі журналіста альбо пісьменніка-фантаста.

Наступны нумар выданьня бачыць сьвет у лютым 2004 году. Галоўны артыкул нумара – вялікае інтэрвію з Ірынай Лаўроўскай. У газэту пачынаюць пісаць зь іншых гарадоў краіны. Вялікая частка нумара прысьвечана акцыям і справам Маладога Фронту, як заўжды, шмат гістарычных і музычных артыкулаў. Упершыню зьяўляюцца вершы.

Ужо праз месяц выходзіць чарговы нумар "Моладзевай думкі" – прысьвечаны Дню Волі, у астатнім канцэпцыя выданьня вытрымліваецца – акцыі МФ, культура, гісторыя, музыка, паэзія, спорт.

У траўні 2004 году зьявіўся шосты нумар газэты, яго асноўнай тэмай стаў сойм МФ. Можна сказаць, што у гэтым выпуску выданьня пралягае рэклямная кампанія Сержука Бахуна, яго каманды і палітычнага курса перад выбарам старшыні Маладога Фронту. Адзначым, што канкурэнт Бахуна на гэтую пасаду каманда Дашкевіча таксама выдала гэзэту, дзе зразумела піярыла свайго лідара, дык вось – "Моладзевая думка" была вельмі моцным аргумэнтам на карысьць старшыні берасьцейскага "Маладога Фронту".

Напрыканцы жніўня быў выдадзены адзін з самых удалых нумароў выданьня – гэта была ўжо сапраўдная журналістыка. Шмат месца было прысьвечана палітычнаму жыцьцю краіны. Вельмі падрабязна апісаны сойм МФ, пры гэтым можна было знайсьці розныя думкі на гэту падзею. Ажно шэсьць старонак заняў адзін зь лепшых беларускіх пісьменьнікаў – Уладзімер Арлоў, тут і рэцэнзія на яго кнігу "Ордэн белай мышы", і вялікае інтэрвію з пісьменьнікам і вядомым гісторыкам. Таксама вельмі слушныя парады атрымалі чытачы ад вядомага гукарэжысэра Анатоля Харытонава.

У 2005 годзе на сьвет зьявілася толькі два нумары выданьня. Першы зь іх – у сакавіку, другі – у траўні. Нарэшце, апошняя на сёньняшні час "Моладзевая думка" выйшла ў лютым 2006 года. Але рэдакцыйная каманда зараз працягвае працу і неўзабаве ў хуткім часе можна чакаць новага нумара "Моладзевай думкі".




За гісторыю "Моладзевай думкі" было чатыры галоўных рэдактара: пачынаў Валер Правевіч, далей быў Алесь Ляўчук, потым шэсьць нумароў рабіла Ганууся Яцкевіч і апошні – Алеся Палеская. Вось, што думаюць два апошнія рэдактары газэты наконт выданьня, якое яны рабілі:

**Алеся Палеская:**

*– "Моладзевая думка" – гэта выданьне, якое адлюстроўвае рэальнасьць штодзённага жыцьця ў Беларусі і за яе мяжой.*

*"МД" друкуе незалежныя думкі нашых чытачоў, цікавыя расказы, а таксама вершы пачынаючых ці ўжо вядомых аўтараў. У асноўным нашы чытачы і аўтары – гэта моладзь, якая зараз больш за усіх цікавіцца жыцьцём Беларусі, часьцей выказвае свае думкі наконт абставін у краіне, актыўна удзельнічае ў грамадзкім руху. Дзякуючы нашай газэце, людзі могуць даведацца аб рэальных навінах і абставінах у краіне, выказваць сваю асабістую думку, пісаць артыкулы, якія мы абавязкова надрукуем. Я лічу, што наша газэта – гэта важная адзінка СМІ, якая дапамагае данесьці да ўсіх жыхароў Беларусі і да кожнага чытача важную інфармацыю і фармаваць грамадзкую думку.*

**Ганууся Яцкевіч:**

*– Для кожнай грамадзкай суполкі уласнае выданьне – сапраўдны скарб, здабыцьцё якога вымагае тытанічнае працы. Той, хто працаваў у трэцім сэктары, абавязкова разпораз узгадвае, "як мы рабілі газэту". Я таксама. Безумоўна, прыемна, калі справа расьце, сталее, набірае вагу. Посьпех акрыляе, крызысы балюча перажываюцца.*

*Калі азірнуцца назад з вышыні дня сёньняшняга – можна ўжо казаць наўпрост, што мы не зрабілі і паловы таго, што маглі. Але гэта добрая школа.*

*Пры стварэньні газэты для НДА трэба ўлічваць некаторыя фактары. Па-першае, дакладнае размеркаваньне працы паміж кампэтэнтнымі ў сваёй сфэры людзьмі. Па-другое, супрацоўніцтва з бізнэсам і разумны PR (мы ж хочам, каб нас чыталі не толькі 10 чалавек, што робяць газету і іх сваякі, ці не так?). З гэтага вынікае трэцяе – пераадолець усебеларускую хваробу на местачковасць (як тэрытарыяльную, так і мэнтальную). Далей – праца на адказнасьць. Калі робіш справу – рабі яе на 11 балаў. Аніякае халтуры. Ня можаш – прынясі кавы. І чацьвёртае (але зусім не апошняе) – грошы. Як іх знайсьці – праблема для кіраўніцтва (ці не праблема). Грошы патрэбныя ня толькі на паперу, друк і г.д., а на нармальныя заробкі для каманды. Бо разам з дэмакратычнымі каштоўнасьцямі не ўсе абіраюць шлях галадоўшчыка, і часам гэта адзіны мэтад утрымаць вольнага прафэсыянала на адным месцы.*

*Зараз беларускае моладзевае выданьне мае пэўныя пэрспэктывы разьвіцьця, але на гэта трэба працаваць, працаваць і працаваць.*

# "Паміж" "Першацветам" і "Чвэрвом"

"Паміж" "Першацветам" і "Чвэрвом"

Быў некалі такой дзяржаўны літаратурны часопіс – "Першацвет", створаны на пачатку 90-ых у якасьці дадатку да "Чырвонай зьмены". А ва Ўкраіне быў і ёсьць часопіс "Четвер" – недзяржаўны, але сугучны з дзяржаўным пазытыўным смакаваньнем маладой літаратуры. Часопіс Беларускага Калегіюма "Паміж" існуе ў міжрэчышчы менскага літаратурнага жыцьця. 5 верасьня адбылася прээзэнтацыя шостага нумара "Паміж" – бадай, самага "зорнага" па складзе.

Стан "паміж" – увогуле стан няўдзячны: гэта стан пошуку, а знайсьці можна і ня тое. Гадоў колькі таму першыя навучэнцы аддзяленьня філязофіі & літаратуры БК, пашыраючы палятывізм гэтай навучальнай установы, вынайшлі назоў часопіса, каб пераказаць гэтым кароткім слоўным сымболем стан інтэлектуяльнага падмурку свайго пакаленьня. Пакаленьня, што пасьпела ў цывілізаваных умовах скончыць "коласаўскі" ліцэй, надыхацца ўведзенай у статус дзяржаўнасьці беларушчынай, закараскацца ў гурбы сьвежых кніжак, выдадзеных на роднай мове – і паступова асэнсаваць скон эпохі беларускай разьнявоенасьці. Для тагачасных стваральнікаў творчага інкубатара – цяпер культуроляга Алі Сідаровіч, паэткі Марыі Барадзіной, перакладчыцы Тацяны Урублеўскай, празаіка Элы Кулеш – ставалася натуральным знаходзіць сябе сярод абрынутых на маладыя галовы спадчыны "Тутэйшых", эміграцкай літаратуры, наватвораў "Бум-Бам-Літа", прынесенай выкладчыкамі ЭГУ заходняй філязофіяй ды дыскурсамі Акудовіча з Бабковым.

Цяперашнія навучэнцы БК ды аўтары часопіса "Паміж" – гэта іншы сьвет. Гэта пакаленьне, брутальнасьць рэчаіснасьці якога робіць другаснымі кніжныя







каштоўнасьці, а з колішняй палітры арыентыраў пакідае найзначнейшыя. Пакаленьне, да якога заходняя культура наблізілася так шчыльна, што жаданьне перакладаць мацнейшае за жаданьне прамаўляць сваё. Ня дзіва, што на старонках нумара гучаць галасы Трумэна Капотэ ды Ані Самон, у прысутнасьці якіх ужо згаворанымі падаюцца натуральныя беларускія рэфлексіі. Дый сам Беларускі Калегіюм цяпер, як з'ява, апынуўся на тэрыторыі паміж – паміж упарадкаванай некалі сістэмай нацыянальных каштоўнасьцяў, якая для маладых інтэлектуалаў маральна састарэла, ды звычайным жыцьцём краіны, што ўпрыгожыла існаваньне гэтых самых маладых інтэлектуалаў лёгкім вэлюмам білінгвізму. Цяперашнія навучэнцы БК прыходзяць у прастору паміж са звычайнага побытавага жыцьця, у якім большасьць кніжак чытаецца па-расейску, а музыка слухаецца пераважна па-ангельску. Ды прастора паміж стае зрэалізаванай прагай альбо аддаць належнае беларушчыне, альбо пашукаць свае кропкі ўзаемадачыненьня зь ёй. Часам адно на пляцоўцы паміж і магчыма пакінуць свае творы, выробленыя па-беларуску.

Прээнтацыя шостага нумару часопіса "Паміж" адбылася на беразе возера Дразды, пад восеньскім сонейкам, пачаўшыся прамовай філёзафа Пётры Рудкоўскага, імпэтным чытаньнем новых вершаў Андрэем Хадановічам, Глебам Лабадзенкам, Вікай Трэнас ды сьпевамі Тацяны Беланогай, а скончылася пэрфомансам ад пана Скіргайлы ды спажываньнем ля вогнішча ўлюбёнага калегіюмаўскага харчу – піва з сасіскамі.

Знайсьці шосты нумар часопіса "Паміж" можна на выставе Сядзібы БНФ, у галерэі "Падземка", кнігарні "Веды", а таксама на гарадзкіх кніжных кірмашах.

*Ціна Давыдчук*

# Неўпрыгожаная праўда

*Журналістка:* Як вы думаеце, колькі чалавек на мітынгу?

*Арганізатар мітынгу:* Каля двухсот...

*Журналістка:* Ну не, тут нават ста няма.

*Арганізатар мітынгу:* Не, сто, напэўна, ёсць.

*Журналістка:* Дык а колькі напісаць?

*Арганізатар мітынгу:* Ну, напішыце 150.

І напісала...

З аднаго боку, гэтую журналістку зразумець можна. Выданьне, у якім яна працавала, улады зачынілі. Яна фактычна засталася без працы. Аднавіцца тое выданьне зможа толькі пасьля зьмены ўлады. Ня дзіўна, што яна сымпатызуе апазыцыі ды шчыра хоча той дапамагчы. Да таго ж яе маленькае "перабольшваньне" – проста драбяза ў параўнаньні з хлусьнёй, што льецца на галовы гледачоў БТ

Ды паглядзім на гэтае пытаньне зь іншага боку. Чым "перабольшваньне" нашай журналісткі розьніцца з хлусьнёю дзяржаўных агітатараў? Хіба маштабамі. Ды ж хлусьня ў любым выпадку застаецца хлусьнёй. Калі артыкул нашай журналісткі прачытае чалавек, што вочавідкі засьпеў той мітынг, яго давер да незалежных СМІ зьменшыцца, а, можа, і ўвогуле зьнікне. Бо мітынг, які я ўзяў за прыклад, падчас пачутай мной журналісткі ды арганізатара, налічваў добра калі 40 чалавек.

Нехта можа аспрэчыць: ворага трэба біць яго ж зброяй. Калі яны хлусяць, дык і мы можам калі-небудзь упрыгожыць рэчаіснасьць. Можа, яно й так. Тым больш, што абсалютнай праўды, зь гледзішча філязофскага, папросту не існуе. А калі на мітынг прыйшло некалькі тысячаў чалавек, падлічыць дакладную іх колькасьць аніяк не атрымаецца. Ды і аб'ектыўным у журналістыцы быць цяжка, калі маеш свае погляды: факты, канешне, рэч катэгарычная, але аналіз ды камэнтар фактаў – праца гнуткая ды цалкам залежыць ад накіраванасьці выданьня.




Апошнім часам, размаўляючы з людзьмі, пераконваюся, што БТ моцна згубіла давер да яго гледачоў. Калісьці людзям падабалася глядзець ды чуць пра тое, што ў нас усё прыгожа, а надоі падвышаюцца. "Панарама" падманвала, а людзі зь вялікім задавальненьнем падманваліся. Цяпер нават тыя, хто спраўна глядзіць тэлевізію, надта моцна ў "падвышэньне надояў" ня вераць. Людзям надакучыла прыгожая хлусня, і, бачачы суворую рэчаіснасьць навокал, яны хочуць пачуць адпаведнага камэнтару.

Таму, паколькі ў людзей такое жаданьне з'явілася, ня трэба замінаць ім яго рэалізоўваць. Трэба даць людзям неўпрыгожаную праўду. Можна адказваць уладам на хлусьню хлусьнёй. Але для чалавека – не для ўладаў – нашая хлусьня нічым ня будзе адрозьнівацца ад хлусьні дзяржаўнай. Фальшывы тон адчуецца ў любым выпадку. Неістотна, фальшывы тон гэта абяцаньняў росту пратэстных настрояў у грамадстве ці аповеду пра няшчасных галодных украінскіх гаваў.

Але паспрабуем уявіць іншую сітуацыю. Шэрагавы чытач, ведаючы што дзяржаўныя СМІ хлусяць, патрапляе на незалежнае выданьне, і там – неўпрыгожаная, раўнюткая, амаль абсалютная праўда. І ён разумее, што менавіта тут – праўда, а ня ў тых выданьнях, што ён чытаў да гэтае пары. Якому выданьню ён будзе болей верыць? Якое выданьне ў ягоных вачох будзе мець аўтарытэт? Само сабой, незалежнае.

Памятаеце старую кітайскую казку пра змаганьне з драконам? Забіўшы дракона, чалавек зрабіўся ім сам. Ды ж ці можна тады змагацца з хлусьнёй коштам хлусьні? Можна! Толькі хлусьня тады ня сыйдзе, проста месца адной хлусьні зойме іншая. А праўда можа перамагчы хлусьню адно мэтодамі праўды.

Незалежны журналіст у цяперашняй сытуацыі павінен несьці людзям ня проста інфармацыю – праўдзівую інфармацыю. Так, нашая праўда будзе не такая прыгожая, як іхняя хлусьня. Яна будзе з доляю крытычнасьці, яна будзе несьці ў сабе адбіткі скрыжаваньняў поглядаў. Але ж гэта будзе праўда. У нашай краіне гэтым словам – "праўда" – пазначаецца ня проста тое, чаго не стае ў грамадстве, гэта – альтэрнатыва. Альтэрнатыва хамаватай, нахабнай, няхай сабе і ў той жа час прыгожай, – хлусьні.

Менавіта альтэрнатыву мы, незалежныя журналісты, павінны несьці людзям. Каб сам чытач, слухач альбо глядач мог параўнаць, пабачыць розьніцу ды зрабіць адпаведныя высновы.

***Ігар Казмерчак***

# Генадзь Суднік:

# "Цяперашнюю журналістыку можна назваць журналістыкай толькі ўмоўна"



***З Генадзем Суднікам, журналістам, адным з заснавальнікаў ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" і сябрам яе Рады, экс-старшынёй Магілёўскай гарадзкой арганізацыі "БАЖ" размаўляе Вітольд Няўрыда.***

***Свабода слова пачала заканчвацца пасьля 1994 году***

Я думаю, што беларуская журналістыка ў апошнія гады перажыла цяжкі перыяд. У гэты час адбыўся адкат ад дэмакратычных каштоўнасьцяў і парамэтраў. Пэўяд павагі да да незалежнай журналістыкі абмяжоўваецца канцом 80-х гадоў ды выбарамі першага прэзыдэнта ў 1994 годзе, калі грамадзтва зрабіла шалёную памылку й абрала не таго чалавека. За выбарам гэтага чалавека грамадзтва атрымала й рэжым, які, на жаль, усталяваўся абсалютна трывала. Гэты рэжым робіць усё каб зьнішчыць самую прывабную заваёву дэмакратыі – свабоду слова й свабоду прэсы. Таму журналісты, якія засьпелі мінулы час і нават яшчэ савецкі час адраджэньня ды абуджэньня, а пасьля цяперашні час дыктатуры, могуць параўнаць зьмены, якія адбыліся за гэтыя перыяды.

***Самацэнзура – першы кашмар сучаснай журналістыкі***

Кожны чалавек, які прафэсыйна займаецца журналістыкай, знаходзіцца ў вялікай небясьпецы. У гэтай небясьпецы шмат парамэтраў. Першае – журналіст перастае быць прафэсыяналам, бо ён спрычыняецца да самацэнзуры й падпарадкоўваецца ўладзе. Некаторыя сродкі масавай інфармацыі пазыцыянуюць сябе як незалежныя дэмакратычныя, але на самой справе такімі не зьяўляюцца. Калі іх уважліва пачытаць, то можна заўважыць, што самацэнзура ў некаторых зь іх дайшла да такой плянкі й рысы, калі за гэтай самацэнзурай няма ніякай дэмакратычнасьці, свабоды й праўды. Улада з такімі выданьнямі лёгка мірыцца. Гэта я б назваў прыцішаным служэньнем рэжыму, які іх падкармлівае. Ёсьць, канешне, і папраўдзе дэмакратычныя СМІ, яны адрозьніваюцца ад псэўдадэмакратычных сваім зьместам.

***Другі кашмар – гэта фізічная небясьпека***

У якасьці прыкладу можна прывесьці невядомасьць лёсу Зьміцера Завадзкага, забойствы Веранікі Чаркасавай і Васіля Гродзікава.

Гэта сьведчаньні пра фізічную небясьпеку прафэсіі журналіста. Я ўзгадаў людзей, якіх забілі, іх ужо зараз няма, і на пытаньне: "Хто іх забіў?" ніхто не дае аніякага адказу. Ёсьць яшчэ й фізічны перасьлед, які даходзіць да такой скрайняй рысы, калі цябе зьбіваюць, штурхаюць і затрымліваюць. Такое чыніць ня толькі афіцыйна ўлада, але яшчэ й невядомыя людзі. Такія выпадкі ёсьць – гэта, на жаль, час ад часу здараецца. Яны адбываюцца з тымі, хто йдзе насуперак усталяваным правілам, супраць рэжыму, з тымі, хто проста выконвае сваю працу, здабывае цікавыя матарыялы, распавядае праўду з жыцьця. Тут нават не ідзе гаворка пра палітычную прапаганду й агітацыю.

Я не кажу пра нават прапаганду, якая вялася раней журналістамі, якія спрабавалі задаваць вектар грамадзкаму дыскурсу: як разьвівацца, куды йсьці і г.д. Такога кшталту высновы маюць права на жыцьцё, але яны лепш успрымаецца людзьмі, калі ў тым, што журналіст гаворыць і што прапагандуе, ёсьць факты, падзеі з жыцьця, прозьвішчы, даты, – нешта такое, на што можна абаперціся й ўсувязі з чым, на падставе чаго можна разьвіваць тую ці іншую думку. Гэтых фактаў часам не стае.

***Зачыненасьць улады***

Улада спрычынілася да распацоўкі нутраных зачыненых дакументаў, якія рэглямэнтуюць, – як паводзіць сябе з журналістамі. Улада зачынілася ў сабе, здабыць самы звычайны факт журналісту проста немагчыма. Існуюць ўказаньні чыноўнікам ніякім чынам не ўваходзіць у кантакты з журналістамі ды даваць ім нейкую інфармацыю без дазволу вышэйшага начальніка. Гэтую лесьвіцу можна пралічыць да самага верху, да таго чалавека, да якога ніхто не пойдзе пытацца дазволу. Гэтая сыстэма адначасна й глуха зачынілася. У нас ня дзейнічаюць прынятыя ў цывілізаваным сьвеце крыніцы інфармаваньня грамадзтва, – калі, напрыклад, чыноўнікі, не называючы сябе, могуць інфармаваць грамадзтва. Нават інфармацыю, якая зьяўляецца звычайнай і будзённай, усё адно не здабыць. У нас з'явіліся людзі, здольныя прадстаўляць інфармацыю. Але журналіст мае права не выкрываць крыніцу сваёй інфармацыі. Да прыкладу, дзе-небудзь у Вярхоўным судзе Злучаных Штатаў ты можаш пазначыць сваю крыніцу інфармацыі, але гэта не азначае, што суд агалосіць яе публічна. У нас усё ня так. У нас людзі баяцца гаварыць, таму няма адкрытых магчымасьцяў здабываць інфармацыю.

***Прафэсыя перастае быць сама сабой!***

Чуткі існуюць таму, што не гавораць праўду. Журналіст мусіць казаць грамадзтву, што, дзе й калі адбываецца. А ён сам не ведае гэтага, таму карыстаецца чуткамі ці сваім уласным досьведам. Гэта тупік, які вядзе да таго, што прафэсыя перастае быць сама сабой. Людзі перастаюць быць журналістамі, бо іх пазбавілі такой магчымасьці. Цяперашнюю журналістыку можна называць журналістыкай толькі ўмоўна.

# Журналістку абвінавацілі ва ўдзеле ў акцыі

Пазаштатнага карэспандэнта недзяржаўнай газеты "Брестский курьер" Настассю Мялешку, якая па заданні рэдакцыі прысутнічала 19 жніўня на прэзентацыі кнігі П. Севярынца "Лісты з лесу", суд Маскоўскага раёна Брэста прызнаў вінаватай ва ўдзеле ў несанкцыянаваным сходзе.

26 верасня суддзя Вольга Смірнова, кіруючыся арт. 23.34 ч.1 КаАП (парушэнне вызначанага парадку правядзення масавых мерапрыемстваў), вынесла журналістцы папярэджанне.

Аргументы Настассі Мялешкі пра тое, што ўдзельнічала яна ў прэзентацыі па рэдакцыйным заданні, а таксама прадстаўленыя як пацверджанне гэтага газетныя публікацыі суддзя Смірнова не прыняла да ўвагі. Яна заявіла, што, калі журналістка не працуе ў штаце выдання, то не лічыцца супрацоўнікам газеты.

Нагадаем, 4 верасня аналагічнае папярэджанне суддзя Смірнова вынесла сябру БАЖ Любові Праневіч.

Між тым, арт. 39 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" гарантуе журналісту права прысутнічаць на месцы грамадска важных падзей і перадаваць адтуль інфармацыю.

***www.nv-online.info***


суддзя Вольга Смірнова

# Прысуд журналістцы

Суд Маскоўскага раёна г. Брэста вынес папярэджанне журналістцы Любові Праневіч, прызнаўшы яе вінаватай у парушэнні арт. 23.34 ч.1 КаАП (парушэнне вызначанага парадку правядзення масавых мерапрыемстваў). Суддзя Вольга Смірнова палічыла, што Л. Праневіч прысутнічала на несанкцыянаваным сходзе. Тое, што дзяўчына мела пры сабе журналісцкае пасведчанне, суд не прыняў да ўвагі.

3 жніўня ў судзе інспектар Маскоўскага РАУС Аляксандр Тарасевіч, які выступаў у якасці сведкі, пацвердзіў, што бачыў пасведчанне Л. Праневіч і нават перапісваў з яго дадзеныя. На пытанне адваката, чаму міліцыянт не адпусціў журналістку, ён заявіў, што *"ў нас ужо такія былі, і ўсе яны пісалі пра нас негатыўна"*. З яго словаў вынікала, што затрыманнем ён збіраўся прадухіліць з'яўленне "негатыўных" публікацый.

Сама Любоў Праневіч пракамэнтавала свой прысуд так: *"Тое, што ў мяне на руках быў загад рэдакцыі часопісу "Абажур" Беларускай асацыяцыі журналістаў, яна не прыняла да ўвагі. Таму я лічу, што гэта прамое парушэнне "Закону аб друку". Таксама гэта парушэнне маіх правоў як журналіста"*.

Журналістку затрымалі 19 жніўня ў офісе брэсцкай арганізацыі Партыі БНФ падчас прэзентацыі кнігі Паўла Севярынца "Лісты з лесу". Разам з ёю былі затрыманыя яшчэ каля 30 ўдзельнікаў сустрэчы.

Любоў Праневіч, яна адразу ж паказала сваё пасведчанне сябра ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" міліцыянтам, якія перапісалі з яго ўсе дадзеныя. Аднак у пратаколе затрымання, які склалі на яе ў Маскоўскім РАУС г. Брэста, пра яе прафесійную прыналежнасць не згадвалася.

# Інтэрнэт у Беларусі

## (частка першая)

Куўшынава Вольга

Паводле "Дакладу аб інфармацыйнай эканоміцы", зробленай Канферэнцыяй ААН па гандлю й развіцьцю колькасьць Інтэрнэт-карыстальнікаў ў Беларусі на пачатак 2006 года складала 3,39 млн чалавек.13 месца – паказьнік зусім не кепскі для досыць невялікай па сусьветных мерках краіны з развіваючайся эканомікай. Для магчымага параўнаньня прыведу такія лічбы: колькасьць усіх карыстальнікаў у сьвеце зараз перавышае адзін мільярд чалавек. Сярод краінаў СНД Беларусь займала трэцяе месца па ўзроўню карыстаньня Інтэрнэт-сэткай. Наперадзе стаялі толькі такія краіны гіганты, як Расея (са сваімі 39,6 млн чалавек) й Украіна (з 4,5 млн чалавек). Вядучыя месцы ў гэтым рэйтынгу цалкам натуральна займалі краіны зь інфармацыйным грамадзтвам, а менавіта ЗША (каля 200 млн чалавек), Японія (85,29 млн чалавек), а таксама краіна з самым вялікім людзкім патэнцыялам Кітай (111 млн чалавек).

У 2007 годзе, паводле дадзеных, апублікаваных дзяржаўным манапалістам "Белтэлекомам", колькасьць карыстальнікаў вырасла да 3,5 млн карыстальнікаў. Такім чынам, колькасьць наведвальнікаў Інтэрнэту ў Беларусі складае 41 чалавек на 100 жыхароў. Разнайстайныя сацыялягічныя дасьледваньні выявілі, што сярод гарадзкога насельніцтва Інтэрнэтам карыстаецца 38,1% апытаных, сярод сельскага 15,8%. Часьцей за ўсё Інтэрнэтам карыстаюцца менчукі (62,3%), а таксама жыхары Менскай (37%), Гродзенскай (32,6%) і Гомельскай (30,8%) абласьцей. Штодзённымі карыстальнікамі заявілі сябе 15%. Большасьць наведвальнікаў зьяўляюцца маладымі людзьмі ва ўзросьце да 30. Што тычыцца ўплыву палітычных перакананьняў колькасьць наведваньняў сеціва, то прыхільнікі дэмакратычнага лягеру карыстаюцца Інтэрнэтам нашмат болей і больш даваряюць атрыманай адтуль інфармацыі, чымсь іхныя апанэнты. Філосаф Уладзімер Мацкевіч такім чынам пракамэнтаваў гэтую сытуацыю: "Диктатура с моей точки зрения всегда является каким-то последствием в сознании людей, в том числе элиты. Здесь же и плохое недостаточное использование Интернета белорусским населением отражает ту же причину. Недостатки, консерватизм, негибкость, ригидность белорусского сознания – все это мешает людям активно включаться в Интернет. Поэтому Интернет пока освоен либо подростками, либо совсем молодыми людьми".

Паводле сьпісу сотні самых папулярных сайтаў, вывешанай на сайце belarys.com, прэферэнцыі беларусаў выглядаюць наступным чынам:

| Name | Trafic | Rank |
|---|---|---|
| 1 Почта@Mail.ru | 23 | RU |
| 2 TUT Belarusian Internet Portal | 1,356 | BY |
| 3 Яndex | 39 | RU |
| 4 Google | 3 | INT |
| 5 Рамблер | 59 | RU |
| 6 LiveJournal.com | 63 | INT |
| 7 Onliner. О мобильной связи | 5,351 | BY |
| 8 Yahoo! | 1 | INT |
| 9 Narod.ru | 168 | RU |
| 10 Google.ru | 160 | INT |
| 11 Rapidshare | 14 | INT |
| 12 Shop.by | 9,042 | BY |
| 13 Megaupload | 13 | INT |
| 14 LiveInternet.ru | 246 | RU |
| 15 OPEN.BY | 12,460 | BY |
| 16 Av.by | 13,535 | BY |
| 17 Microsoft Network (MSN) | 2 | INT |
| 18 Loveplanet.ru | 511 | RU |
| 19 Zaycev.net | 215 | RU |
| 20 Depositfiles.com | 132 | INT |
| 21 Gismeteo.ru | 870 | RU |
| 22 Космос тв | 17,601 | BY |
| 23 All.by | 14,772 | BY |
| 24 Nnm.ru | 420 | RU |
| 25 Wikipedia | 9 | INT |
| 26 Ya.ru | 823 | RU |
| 27 Ifolder.ru | 405 | RU |
| 28 Арена | 867 | RU |
| 29 Microsoft Corporation | 16 | INT |
| 30 Diary.ru | 799 | RU |
| 31 Ucoz.ru | 551 | RU |
| 32 Sexnarod.ru | 1,391 | RU |
| 33 YouTube | 4 | INT |
| 34 Blogger.com | 15 | INT |
| 35 Pressball.by | 23,072 | BY |
| 36 ICQ | 95 | INT |
| 37 Санкт-Петербург | 559 | RU |
| 38 Mamba.ru | 2,161 | RU |
| 39 Mobile.de & eBay Motors GmbH | 259 | DE |
| 40 Фотофайл | 719 | RU |
| 41 Of.by | 25,902 | BY |
| 42 Kosht.com | 33,920 | BY |
| 43 Мобильные ТелеСистемы | 29,934 | BY |
| 44 RedTram | 744 | UA |
| 45 By.ru | 1,671 | RU |

| | | |
|---|---|---|
| 46 ImageVenue hosting | 55 | INT |
| 47 Myspace | 6 | INT |
| 48 Фишки.NET | 531 | RU |
| 49 MeteoBY | 37,021 | BY |
| 50 Unibel.by | 27,620 | BY |
| 51 Автобизнес-weekly | 56,173 | BY |
| 52 Атлант-Телеком | 51,352 | BY |
| 53 Бел. гос. университет | 45,736 | BY |
| 54 Borda.ru | 1,195 | RU |
| 55 Vitebsk.by | 38,055 | BY |
| 56 OZ.by | 23,893 | BY |
| 57 Росбизнесконсалтинг | 816 | RU |
| 58 Readme.ru | 1,246 | RU |
| 59 Byfly.by | 54,923 | BY |
| 60 Комсомольская правда | 2,475 | RU |
| 61 IXBT.com | 2,124 | RU |
| 62 Xuk.ru | 1,169 | RU |
| 63 Jdu.ru | 2,851 | RU |
| 64 Брест | 66,684 | BY |
| 65 Bntu | 95,032 | BY |
| 66 Windows Live | 5 | INT |
| 67 Бойцовский клуб | 1,050 | RU |
| 68 Библиотека Максима Мошкова | 2,527 | RU |
| 69 Intimby.net | 48,073 | BY |
| 70 Lenta.ru | 1,408 | RU |
| 71 Lastfm.ru | 7,184 | INT |
| 72 EBay | 20 | INT |
| 73 Частное фото | 3,069 | RU |
| 74 Minsk.by | 17,823 | BY |
| 75 lifeby.info | 56,154 | BY |
| 76 Мультипортал "Кирилл и Мефодий" | 1,348 | RU |
| 77 Velcom GSM | 62,990 | BY |
| 78 Из рук в руки | 1,578 | RU |
| 79 Radikal.ru | 1,055 | RU |
| 80 ImageShack | 44 | INT |
| 81 Vkontakte.ru | 244 | RU |
| 82 Adsl.by | 42,244 | BY |
| 83 Grodno.net | 73,463 | BY |
| 84 Belaruspartisan.org | 65,988 | BY |
| 85 Eurosport.ru | 3,517 | BY |
| 86 Nm.ru | 1,945 | RU |
| 87 Absolute Games | 1,577 | RU |
| 88 Funkysouls.com | 2,258 | RU |
| 89 Aldebaran.ru | 3,142 | RU |
| 90 Naviny.by | 52,155 | BY |
| 91 Бел. гос. экономич. университет | 103,148 | BY |
| 92 Взгляд | 2,321 | RU |
| 93 Tokiohotel.ru | 10,025 | RU |
| 94 Allmedia.tv | 72,954 | BY |
| 95 Mail.by | 57,278 | BY |
| 96 Туристический портал Holiday.by | 72,835 | BY |
| 97 Ab-daily.by | 39,092 | RU |
| 98 Травиан | 1,595 | RU |
| 99 Charter97.org | 60,202 | RU |
| 100 POGODA.BY Гидромет-центр РБ | 34,095 | BY |



Такім чынам, з вышэй прыведзенага сьпісу бачна, што найбольшай папулярнасьцю сярод насельніцтва карыстаюцца сайты – камунікатары (назавем іх умоўна так) з форумамі, чатамі й поштай, а таксама пашукавікі. Навінны сайт у сьпісе займае толькі 15 месца.

Паводле сьпісу папулярнасьці палітычных сайтаў, пададзеных Акавітай па стану на 20-ае жніўня, сытуацыя выглядае наступным чынам:

1) Белорусский Партизан са сваімі 3170 наведвальнікамі;

2) Национальный правовой Интернет-портал Республики Беларусь з 1343;

3) Левоневский В. С. 1754

4) Официальный вебсайт Объединённой Гражданской Партии з 874

Сайт Аляксандра Мілінкевіча займае тут толькі 20-ае месца са сваімі 117 наведвальнікамі, Партыя БНФ стаіць ажно на 30-ым месцы са сваімі 63 наведвальнікамі.

У параўнаньні з палітычнымі сайтамі навінныя карыстаюцца большай папулярнасьцю:

1) ПРЕССБОЛ – белорусская спортивная газета №1. Интернет-версия 3663;

2) Белорусский Партизан 3170;

3) БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ | Беларусь | | Минск | факты | комментарии 3473;

4) Хартыя'97 – НАВІНЫ зь БЕЛАРУСІ 3087

Непапулярнасьць палітычнай тэмы ў выкананьні партыяў відавочная. Тым ня менш тая ж палітыка ў выглядзе "Белорусского Партизана" мае шырокае кола чытачоў. Гэтае апошняе Інтрэнэт-выданьне відавочна мае штосьці такое заманлівае, чаго, на вялікі жаль, ня маюць астатнія. Што ж гэта? На гэтае патаньне я паспрабую адказаць у другой частцы артыкула.

# Інтэрнэт у Беларусі (частка другая)

# Патрабаваньні інтэрнэту

Агляд Інтэрнэт-запатрабаванасьцяў, што быў мной зроблены ў першай частцы артыкула, быў прысьвечаны таму, каб паспрабаваць асэнсаваць магчымасьці дастаўкі інфармацыі да беларускага насельніцтва праз сеціва. Дык вось, падвялічваючаяся з кожным годам колькасьць Інтэрнэт-карыстальнікаў адназначна сьведчыць аб тым, што скідаць інфармацыйныя тэхналёгіі з уліку грамадзкім арганізацыям сёньня не выпадае. Між тым, штосьці ў самой схеме такой працы на дадзены момант не спрацоўвае, раз сайты з дэмакратычнай тэматыкай маюць такія нізкія ўзроўні наведваньня. Рызыкну выказаць меркаваньне, што справа тут ня ў палітычнай апатычнасьці беларусаў, а хутчэй у няправільных падыходах да працы ў сеціве. Большасьць сайтаў паведамляюць досыць нудную інфармацыю ў нецікавай форме. Стэрэатыпы такога партыйнага падыходу зьнішчаць трэба ўжо зараз.

Адрыян Харэлл (Adrian Hurell), выканаўчы дырэктар брытанскага адзьдзяленьня 3Com (правайдэр некаторых інтэрнэтаўскіх прадуктаў) пасьля дасьледваньня выкарыстаньня вэб-сайтаў дробнымі й сярэднімі арганізацыямі зазначыў: “Нашае дасьледваньне яўна сьведчыць аб тым, што невялікія й сярэднія арганізацыі часта адчуваюць сябе ў вялікай ізаляцыі, што нярэдка тлумачыцца недахопам ведаў аб тым, куды яны могуць зьвярнуцца за парадай, і адчуваюць няўтульнасьць, лічачы, што тэхналёгія занадта складаная, каб яе можна было ў сябе ўсталяваць і выкарыстоўваць”. Іншымі словамі кажучы, вэб-сайты ёсьць практычна ва ўсіх, аднак мала хто рэальна выкарыстоўваць”. Іншымі словамі кажучы, вэб-сайты ёсьць практычна ва ўсіх, аднак мала хто рэальна выкарыстоўвае гэты рэсурс. На самой жа справе неабходныя тэхналёгіі даступныя самым розным арганізацыям, не ў залежнасьці ад колькасьці сябраў і фінансавых магчымасьцяў.

Што тычыцца адказу на пытаньне, што робіць вэб-сайт якасным, то даць яго дастаткова складана. Тым ня менш пэўныя прынцыпы ягонай пабудовы варта захоўваць. Самым галоўным у гэтым сьпісе я б асабіста паставіла інфармацыйную запоўненасьць. Аднак нельга ігнараваць і зручнасьць навігацыі з захаваньнем пры магчымасьці арыгінальнасьці дызайну (апошнім нават можна ахвяраваць на карысьць зручнасьці й хуткасьці пошуку інфармацыі). Спецыялісты ў распрацоўцы сайтаў часта нагадваюць аб тым, што карыстальнік вельмі рэдка гатоў да вычытваньня дзесятак старонак у пошуках неабходнай яму навіны. Каб не перагрувашчваць наведвальніка непатрэбнай для яго інфармацыяй тэксты пажадана разьбіваць на маленькія часткі, часта даючы ім асобныя падзагалоўкі. Акрамя таго існуе так званае правіла трох клікаў, якое гласіць, што ніводная старонка вашага сайту не павінна знаходзіцца на адлегласьці большай за тры клікі ад любой іншай старонкі. Пажадана таксама выкарыстоўваць лёгка разьлічаемыя ланцугі сувязі такія, як “Архіў”, “На галоўную”, “Навіны”, “Артыкулы”, “Аб гэтым сайце” й г.д.

У працы зь Інтэрнэтам нельга забывацца на тое, што ён забясьпечвае дзьвюхбаковую сувязь. А таму ў працы па абнаўленьні інфармацыі пажадана арыентавацца на водгукі й запатрабаванасьці саміх наведвальнікаў. Рэч у тым, што пакуль вэб-сайт не прадстаўляе патэнцыйным наведвальнікам сапраўды карысную інфармацыю, ён наўрад ці будзе наведвальным, у незалежнасьці ад таго, якая аўтарытэтная арганізацыя падпісалася пад ім. Інтэрнэт, калі карыстацца маркетынкавым жаргонам, адносіцца да варыянту асяродкаў кшталту “цягні”, а не “штурхай”. Гэта азначае, што карыстальнікі Інтэрнэту самі павінныя шукаць інфармацыю, й “выцягваць” яе, і дзеля таго, каб рабіць гэта, у іх павінныя быць важкія прычыны. Адным са спосабаў прыцягнуць людзей на сайт ёсьць варыянт прадстаўленьня на ім эксклюзыўнай інфармацыі ці карысных парадаў, асабліва калі такая інфармацыя можа быць прапанавана з улікам спэцыялізаваных запатрабаваньняў асобнага карыстальніка.

Ня варта таксама ігнараваць прэс-рэлізы й падпіскі на сваім сайце. Як паказвае досьвед, наведвальнік хутчэй прачытае прэс-рэліз, чым будзе доўга лазіць у пошуку якой-небудзь навіны. Што тычыцца падпісак, то тут ёсьць адзін сакрэт. Карыстальнік павінны ня толькі мець магчымасьць падпісацца да яе, аднак гэтак жа лёгка ад яе адпісацца, калі яна зробіцца яму непатрэбнай.

У момант прадстаўленьня эксклюзыўнай інфармацыі на сайтах мы зноўку ўпіраемся ў праблему занядбаньня Інтэрнэт-прасторы ў Беларусі. А калі дакладней, то я маю на ўвазе факт ігнараваньня грамадзкімі аргані-

зацыямі дробных і сярэдніх сайтаў. Інфармацыю, якую яны вывешваюць на сваіх старонках, ім ніхто не дае, а таму яе прыходзіцца передрукоўваць. Між тым, такую сытуацыю можна зьмяніць, непасрэдна запрашаючы мадэратараў такіх сайтаў (для прыкладу, saligorsk.org, svetlagorsk.org, maladechna.org,) на інфармацыйныя імпрэзы.

Яшчэ адна істотная праблема большасьці незалежных сайтаў – гэта ўскладнёнасьць іх пошуку на прасторах Інтэрнэту. Нагадаю, што аднымі з самых папулярных па наведваньню у нас ёсьць сайты-пашукавікі. Між тым, пры іх дапамозе бывае вельмі часта складана выйсьці на які-небудзь сайт. Каб зразумець, як працуюць пашуковыя механізмы, варта даведацца, што яны бываюць дзьвюх відаў: пасыўныя й актыўныя. Для пасыўных неабходная самастойная рэгістраваць свой сайт, актыўныя ж самі ўвесь час дасьледуюць Web у пошуках новых сайтаў і самастойна рэгіструюць іх. У Беларусі самым папулярным ёсьць актыўны Google, які, дарэчы, значна хутчэй рэгіструе сайт пры наяўнасьці ў яго вялікай колькасьці зьнешніх сувязяў. Папулярны ва ўсім сьвеце Yahoo! наадварот прадугледжвае працэдуру рэгістрацыі, што дазваляе перадаваць адпаведную інфармацыю аб вашым сайце. Карацей, паспрабуйце не згубіцца ў сецыве. Выкарыстоўвайце тут і правілы пашукавікоў, а таксама рэкламуйце свой сайт у вуснай форме. Пазначайце адрэсу на візытках, нейкай іншай друкаванай прадукцыі.

І напасьледак – інфармацыя ні ў якім разе не павінна быць сумнай. Шэрасьць навіны здольная ў наш інфармацыйны век забіць усялякую яе карыснасьць. Многія грамадзкія арганізацыі суседняй з намі Ўкраіны заманьваюць наведвалніка з дапамогай коміксаў, карыкатур, рынгтонаў і г.д. Калі насамрэч хацець зрабіць цікавы сайт, то нічога складанага ў гэтым няма. Можна цалкам справіцца з уласнымі сіламі, дзякаваць Богу, што літаратуры па гэтай тэматыцы больш, чым дастаткова. А таксама можна зьвярнуцца да досьведу "Беларускага Партизана", які нават у гэтых вельмі нялёгкіх умовах мае стабільную высокую наведвальнасьць.

**[Цікава ведаць]**

# Телеальтернатива для белорусов

С начала следующего года у жителей Беларуси появится альтернатива господствующему телефициозу. С 1 января, как сообщает агентство ELTA, на территории соседней страны начнет трансляцию независимый канал спутникового телевидения "BelSat". Передачи канала будут готовиться в Польше, Литве и Минске.

Смотреть канал "BelSat" смогут все, кто имеет сотовую телевизионную антенну которая должна быть настроена на спутники "Астра" и "Сириус".

О необходимости такого проекта уже давно говорили независимые журналисты и общественные деятели, борющиеся за свободу слова в Беларуси. По словам координатора проекта "BelSat" Агнешки Ромашевской-Гузы, международный проект, объединяющий белорусский, литовский и польский народы с общей историей, создан полтора года назад и, наконец, начал осуществляться.

Идея будет реализована главным образом в телестудиях общественных вещателей Польши и Литвы.

В студии ЛРТ увидит свет главная дискуссионная передача "Форум". По словам генерального директора ЛРТ Кястутиса Пятраускиса, главная цель проекта – предоставить людям объективную, сбалансированную информацию.

"У людей появится возможность выбора: смотреть либо государственные каналы, которые занимаются пропагандой, либо – свободный, независимый канал", – отметил К.Петраускис.

Редактор передачи "Форум" Эдуард Мельников говорит, что на передачу будут приглашаться не только представители оппозиции, но и представители официальных властей Беларуси. *"Диалог будет открытым для всех"*, – говорит Э. Мельников.




В Беларуси установлено около 700 тысяч спутниковых антенн. Пробная трехчасовая трансляция телеканала "BelSat" запланирована на 10 декабря. Постоянная трансляция телеканала (16 часов в день) начнется 1 января 2008 года. Информационные передачи будут создаваться в Варшаве, обзоры прессы и репортажи – в Белостоке, дискуссионная передача – в Вильнюсе, документальные фильмы, культурно-развлекательные передачи – в Минске.

*www.ru.delfi.lt*

# Татальная падпіска на дзяржпрэсу

У Карэлічах супрацоўнікаў бюджэтных арганізацыяў "заахвочваюць" падпісацца на камплект дзяржаўных газэтаў пад пагрозай пазбаўленьня прэміяльных. Камплект дзяржпрэсы ўключае "Советскую Белоруссию", раённую газэту "Полымя", а таксама "сваё" выданьне – мэдыкі выпісваюць "Мэдыцынскі веснік", настаўнікі, натуральна "Настаўніцкую газэту" і г.д. Неабходна падпісацца на апошні квартал 2007 года.

Такое ўказаньне было зробленае на сходах працоўных калектываў. Нязгодныя паводле загаду кіраўніцтва ўстановаў будуць пазбаўленыя прэміяльных. Памер апошніх, дарэчы, у большасьці бюджэтных установаў прыкладна раўняецца кошту квартальнай падпіскі. Таму шмат хто адмаўляецца падпісвацца на дзяржаўныя газэты. Нагодай для адмовы зьяўляецца яшчэ адзін момант. Паводле сьведчаньняў супрацоўнікаў некаторых мясцовых дзяржаўных установаў, іх арганізацыі рэгулярна атрымліваюць з шапікаў "ГродНааблсаюздруку" сьпісаныя экзэмпляры афіцыйных выданьняў, якія пасьля распаўсюджваюцца сярод працаўнікоў.

Прымусовая падпіска сярод дзяржаўных установаў Карэлічаў зрабілася звыклай зьявай у Карэлічах і становіцца ў адзін шэраг з бясплатнымі суботнікамі, адзначае "Наша Ніва".

Вось так праводзілася падпіска на перыядычнае выданне "Беларускі час" у самых масавых прафсаюзах. Праз пастанову прэзідыўма, якое падпісаў, верагодна, Л.П.Козік.

Пры дапамозе ціску на ўсе галіновыя прафсаюзы рабілася *разнарадка.* Такое мы ўжо праходзілі ў камуністычныя часы, калі кожнага камуніста абавязвалі выпісваць газету "Праўда". Верагодна, гэтая штотыднёвая газета не карыстаецца попытам і аўтарытэтам.

***www.nn.by***

Беларускі прафесійны саюз работнікаў аграпрамысловага комплексу

праспект Пераможцаў, 21-1201
220126, г. Мінск
тэл/факс 2038747
разліковы рахунак № 301500453009
Мінскае аддзяленне "Цэнтральнае"
ААТ "Белзнешэканамбанк"
код 728, г. Мінск, вул. Заслаўская, 10
УНН 100094887, ОКПО 02679266



Белорусский профессиональный союз работников агропромышленного комплекса

проспект Победителей, 21-1201
220126, г. Минск
тел/факс 2038747
расчётный счёт № 3015004573009
Минское отделение «Центральное»
ОАО «Белвнешэкономбанк»
код 728, г. Минск, ул. Заславская, 10
УНН 100094887, ОКПО 02679266

11.06.2007 № 02-10/392

Председателям обкомов (Минского горкома) профсоюза работников агропромышленного комплекса

Просим обеспечить исполнение Постановления Президиума Совета Федерации профсоюзов Беларуси от 31.05.2007 № 83 «Об организации подписки на еженедельник «Беларускі час» во втором полугодии 2007 г.» согласно расчёту:

| № п/п | Наименование комитета | Количество экземпляров |
|---|---|---|
| 1. | Брестский ОК | 2103 |
| 2. | Витебский ОК | 1495 |
| 3. | Гомельский ОК | 2165 |
| 4. | Гродненский ОК | 2203 |
| 5. | Минский ОК | 2872 |
| 6. | Могилёвский ОК | 1523 |
| 7. | Минский ГК | 210 |
| | ИТОГО: | 12571 |

Председатель  В.Ф.Наумчик

Артыкулы, якія ёсьць у гэтым часопісе,
а так сама шмат іншай цікавай інфармацыі
Вы можаце знайсьці на сайце
Фундацыі імя Зьмітра Завадзкага
Dmitry Zavadsky Foundation
WWW.ZAVADSKY.ORG

*Абдарразак Хашим аль-Хакани (Abderrazak Hashim Al-Khakani)*,
журналист, радио Jumhuriyat Al Iraq
*Хусейн аль Зубайди (Hussein Al Zubaydi)*,
журналист, еженедельная газета al-Ahali
*Манжид ал-Тумайми (Munjid Al-Tumaimi)*,
независимый фотокорреспондент
*Фалах Халаф Аль Дийали (Falah Khalaf Al Diyali)*, журналист, Al Saha
*Яссин Айд Ассеф (Yassin Aid Assef)*,
корреспондент, Al Saha
*Хоудр Йоунес аль-Обайди (Khoudr Younes al-Obaidi)*, независимый журналист
*Ахмед Хади Наджи (Ahmed Hadi Naji)*,
оператор Associated Press Television News

**Кыргызстан (1)**
*Алишер Саипов (Alisher Saipov)*,
редактор, еженедельник Siyosat

**Китай (1)**
*Лан Ченжан (Lan Chengzhang)*, журналист, Zhongguo Maoyi Bao (Новости китайской торговли)

**Колумбия (3)**
*Карлос Альберто Джамарильо (Carlos Alberto Jamarillo)* и *Хулио Сезар Гарсиа (Julio Cesar Garcia)*, фотокорреспонденты
*Хавьер Дарио Арроявэ (Javier Dario Arroyave)*, директор службы новостей, Radio Ondas del Valle

**Конго (2)**
*Патрик Кикуку (Patrick Kikuku)*,
независимый фотожурналист
*Сердж Махеш Касоул (Serge Maheshe Kasole)*,
журналист, радиостанция Okapi

**Мексика (3)**
*Саул Нои Мартинез Ортега (Saul Noe Martinez Ortega)*, криминальный репортер, Interdiario
*Амадо Рамирез Дилланес (Amado Ramirez Dillanes)*, журналист, Radiorama Acapulco
*Гевара Гевара Домингез (Guevara Guevara Dominguez)*, редактор и журналист цифрового издания Siglo XXI

**Непал (1)**
*Санкер Пантхи (Sanker Panthi)*,
корреспондент, Naya Satta

**Пакистан (7)**
*Мухаммед Ариф (Muhammad Arif)*,
оператор, ARY One World
*Азар Аббас Хайдри (Azar Abbas Haidri)*,
штатный репортер, The Post
*Хайдерабад Раб Наваз Чандио (Hyderabad Rab Nawaz Chandio)*, корреспондент, Daily Halchal
*Жавед Кхан (Javed Khan)*,
фотокорреспондент, Markaz
*Нур Ахмед Соланги (Noor Ahmed Solangi)*,
журналист, Khabroon
*Нур Хаким (Noor Hakim)*, журналист, Pakistan
*Мебуб Кан (Mehboob Khan)*,
независимый фотокорреспондент

**Палестинские территории (3)**
*Иссам Мохаммед Авад аль-Жужу (Issam Mohammad Awad al-Joujou)*,
журналист, сайт Palestine Live
*Сулейман Абдул-Рахим аль-Аши (Suleiman Abdul-Rahim al-Ashi)*, экономический редактор
*Мохаммед Матар Абдо (Mohammad Matar Abdo)*, менеджер по распространению и общественным связям, Palestine

**Парагвай (1)**
*Тито Альберто Пальма Годой (Tito Alberto Palma Godoy)*, радиожурналист, Chaco Boreal

**Перу (1)**
*Мигель Перез Джулка (Miguel Perez Julca)*,
журналист, Radio

**Россия (2)**
*Вячеслав Ифанов*, оператор,
Новое телевидение Алейска (НТА)
*Иван Сафронов (Ivan Safronov)*,
военный корреспондент, Коммерсантъ

**Сомали (8)**
*Башир Нор Геди (Bashir Nor Gedi)*,
и.о.председателя, Shabelle Media Network
*Абдулкадир Махад Молим Каски (Abdulkadir Mahad Moallim Kaskey)*,
корреспондент, Radio Banadir
*Махад Ахмед Элми (Mahad Ahmed Elmi)*,
директор, Radio Capital Voice
*Али Иман Шармарки (Ali Iman Sharmarke)*,
директор, Horn Afrik
*Абшир Али Габра (Abshir Ali Gabra)* и *Ахмед Хасан (Ahmed Hassan)*, журналист, Radio Jowhar
*Мохаммед Абдуллахи Халиф (Mohammed Abdullahi Khalif)*, радиожурналист, Voice of Peace
*Али Мохаммед Омар(Ali Mohammed Omar)*,
радиоведущий, Radio Warsan

**США (1)**
*Чонси Бейли (Chauncey Bailey)*,
редактор, Oakland Post

**Турция (2)**
*Касим Чифчи (Kasim Ciftci)*,
владелец и журналист, Hakkari Province Voice
*Хрант Динк (Hrant Dink)*, журналист, Agos

**Филиппины (5)**
*Герунсио "Оскар" Мондеджар (Geruncio "Oscar" Mondejar)*,
журналист, радиостанция DYRB
*Висенте Сумалпонг (Vicente Sumalpong)*,
журналист, Radyo ng Bayan (Народное радио)
*Доди Нунез (Dodie Nunez)*,
фотожурналист, Katapat
*Кармело "Марк" Паласиос (Carmelo "Mark" Palacios)*,
журналист радиостанции dzRB Radyo ng Bayan
*Хернани Пастолеро (Hernani Pastolero)*,
редактор Lightning Courier

**Шри-Ланка (2)**
*Селвараджа Радживарнам (Selvarajah Rajivarnam)*, журналист, Uthayan
*Субаш Чандрабоас (Subash Chandraboas)*,
журналист, Nilam

**Эль-Сальвадор (1)**
*Сальвадор Санчез Рокэ (Salvador Sanchez Roque)*,
журналист, Radio Maya Vision

**Эритрея (1)**
*Фессехэй "Джошуа" Йоханнес (Fessehaye "Joshua" Yohannes)*, журналист, Setit

